# ЛіМ ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

3 верасня 2004 г. № 36/4273


## АНОНС!



### По прыступках стагоддзяў

Тураўскі краязнаўчы музей, бадай, адзіны сапраўдны сведка ўсёй гісторыі горада, які авеяны легендамі і паданнямі, горада, у якім заснулі стагоддзі.

СТАР. 9

### Цэнтр будзе ў бібліятэцы

Бібліятэкі заўсёды лічыліся культурным цэнтрам горада, месцам, дзе можна застацца сам-насам з любімай кнігай, пачытаць для душы, чэрпаць новыя веды ў той ці іншай галіне. Не выключэнне і Тураўская занальная дарослая бібліятэка (філіял № 1).

СТАР. 13



Для будучыні суверэннай маладой Беларусі вельмі важна мець свае святы. Свята сваіх спаконвечных святыняў з'явілася ў нас дзесяць гадоў таму: Дзень беларускага пісьменства. Мы шануем яго як падзею ўсенацыянальнага, дзяржаўнага значэння. І маем поўнае права лічыць яшчэ адным святам незалежнасці, суверэнітэту Радзімы, днём нашага самапазнання і самасцвярджэння. Бо спачатку было Слова. І слова было — беларускае...

5 верасня свята беларускага пісьменства зноў прымае Тураў, легенда і загадка Палесся, калыска беларускай гісторыі, скарбніца духоўнасці.

# Вытокі нашай будучыні

Магутная Прыпяць сілкуецца мноствам таемных вытокаўкрыніц, схаваных у нетрах зямлі. Магутны беларускі дух сілкуецца каранямі гістарычнай памяці, прарастае з далёкай і нядаўняй мінуўшчыны, старонкі якой прасякнуты самабытнай мудрасцю, трывушчасцю, марай пра сваё, незалежнае і годнае жыццё.

Берагі Прыпяці, як берагі памяці, зноў пяднаюць нас у прыгожым памкненні — да каранёў, да вытокаў культуры, да нашай духоўнай спадчыны. Да Слова Беларускага, без якога немажліва годнае жыццё дзяржавы.

Адраджаючы традыцыі, мацнеем як народ. Вяртаючы забытае, вяртаемся да сябе і мацуем надзею на будучыню Беларусі — энергічнай і поўнай стваральнага духу.

Віншуем вас, дарагія чытачы, з вялікім святам, якому і прысвяцілі мы сённяшні нумар «ЛіМа»!



КАЛОНКА ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА

# Жывучасць мовы — веліч краіны!

Для беларусаў, прынамсі, тых, хто цікавіцца гісторыяй сваёй краіны, словы "Тураў" ды "тураўская зямля" ніколі не застануцца пустым гукам, незразумелым словазлучэннем, а ў першую чаргу будуць асацыіравацца з былой і багатай славай, магутнасцю продкаў. Гонарам за прашчураў, якія яшчэ да прыходу хрысціянства мелі развітую інфраструктуру, шырокія гандлёвыя зносіны з далёкімі, нават па нашым часе, суседзямі, сталую эканоміку і г.д.

Як усім вядома, Тураў упершыню ўспамінаецца ў "Аповесці мінулых часоў" пад 980 г. і з'яўляецца самым старажытным горадам на тэрыторыі рассялення дрыгавічоў. Археалагічныя раскопкі, якія рэгулярна тут праводзіліся і праводзяцца, сведчаць, што з канца дзесятага стагоддзя Тураў, так бы мовіць, "моцна стаяў на нагах" і з'яўляўся палітычным, эканамічным і культурна-рэлігійным цэнтрам Тураўскага княства. А першы летапісны князь Тур (адкуль, як мяркуецца, і паходзіць назва самога горада) быў хоць і міралюбівым кіраўніком, але ніколі не забываў пра бяспеку свайго прыпрыпяцкага народа. Адсюль, мабыць, і зручнае месцаразмяшчэнне горада, і раскапаныя археолагамі рэшткі абарончых збудаванняў, знойдзеныя наканечнікі стрэл і коп'яў. Бо як гаворыцца: калі хочаш жыць мірна, то не забывайся, а заўсёды рыхтуйся даць варты адпор таму, хто паквапіўся на твой дабрабыт і набытак. Тур, відаць, быў з ліку такіх стратэгаў, таму і размясціў гарадзішча на мысе пры ўпадзенні былой ракі Язда ў пратоку Прыпяці — Струмень. Як сведчаць археолагі, пачатковая планіровачная структура старажытнага горада складалася з дзядзінца і навакольнага мястэчка, размежаваных валам. Нават захаваліся сякія-такія тагачасныя фрагменты.

Яшчэ цікавы факт з мінулага, калі на паўночнай і паўночна-заходняй тэрыторыі Беларусі ў IX — X стагоддзях цэнтрам каланізацыі славян з'яўляліся: Полацк, Віцебск, Лукомль, Мінск, Орша, Друцк, Заслаўе, Лагойск, Браслаў, Шклоў, Наваградак, Ваўкавыск, то на паўднёвай частцы нашых земляў, акрамя Турава, іншых гарадоў не існавала...



Так выглядаў старажытны Тураў. Макет.

Ва ўсялякім разе так засведчана ў выданні "Архітэктура Беларусі", энцыклапедычны даведнік. Мн. *"Беларуская Энцыклапедыя"* імя Петруся Броўкі, 1993г.

Але вернемся да тэмы нашай гаворкі. Як зафіксавана ў шматлікіх даследаваннях, ужо з 988 года ў Тураве княжылі прадстаўнікі дынастыі Рурыкавічаў. Мала хто не чуў пра гэты самабытны род княжацкай крыві. Менавіта на тыя і крыху пазнейшыя часы прыпадаюць шырокія гандлёвыя сувязі Турава з Кіевам, Паўночным Прычарнамор'ем, Блізкім Усходам, Малой Азіяй, Валынню і Прыбалтыкай. Неабвяргальныя доказы таго — знойдзеныя археолагамі рэшткі шкляных бранзалетаў, аконнага шкла, шыферных прасліц, касцяныя вырабы, нажы, металічныя замкі, скроневыя кольцы, унікальныя свінцовыя абразкі, нават шахматныя фігуркі і шкляны посуд. Усё гэта яшчэ раз даказвае, што ў тагачасным Тураве былі развіты касцярэзнае, жалезаапрацоўчае, ювелірнае ды шавецкае з ганчарным рамёствы.

На сённяшні дзень ніхто, як мне здаецца, не возьмецца даказваць адваротнае, што старажытны Тураў дзесьці пасля XII стагоддзя (на гэты час прыходзяцца знойдзеныя руіны храма) быў адным з найважнейшых культурных і рэлігійных цэнтраў Кіеўскай Русі. Бо, як вядома, у гэтым горадзе жыў і працаваў сам Кірыла Тураўскі!

Шмат чаго выпала на долю старажытнага і слаўнага, у нечым непаўторнага горада Турава за яго шматвяковую гісторыю. Быў ён і ў складзе Вялікага княства Літоўскага. Ягоныя вуліцы і вулачкі бачылі і чулі твары і крокі такіх гістарычна вядомых асоб, як Свідрыгайла, валадароў Астрожскіх ды Сапегаў з Патоцкімі і Радзівіламі. Быў Тураў спустошаны падчас руска-польскай вайны 1654 — 67 гадоў, але, як неўміручая птушка Фенікс, горад паўставаў з яго працавітым людам з попелу, адраджаўся і зноў набываў моц і славу, сваю непаўторную адметнасць. Такі ўжо лёс у многіх гарадоў і мястэчак нашай шматпакутнай зямлі з яе волелюбівым і нескароным народам...

Варта адзначыць, што з 1793 года Тураў увайшоў у склад Расіі і стаўся мястэчкам, цэнтрам воласці Мазырскага павета, прыналежнасцю Салагубаў.

Робячы кароткі гістарычны экскурс у мінулае Турава і яго земляў, нельга не сказаць і пра адметны факт, а менавіта: у 1865 годзе ў Тураве выяўлены адзін з найбольш ранніх помнікаў усходнеславянскага пісьменства XI стагоддзя — Тураўскае Евангелле... Дарэчы, і вялікае светлае Свята беларускага пісьменства, якое шырока, на дзяржаўным узроўні адбываецца сёння, — не выпадковасць, а непазбежная заканамернасць!

Як вядома: прырода і гісторыя не пераносяць хаосу і заўсёды, хочам мы таго або не, але расстаўляе ўсё па сваіх месцах, жыве па законах, пакуль што не падуладных нашым амбіцыйным жаданням. Вось і сёння Свята нашага пісьменства вярнулася туды, дзе фактычна распачыналася і сталела, набывала сілу і моц, шырокую вядомасць. Няхай жа беларускае слова не сціхае не толькі над берагамі Прыпяці, а штодзённа мілагучна гучыць паўсюдна на зямлі нашых продкаў. І не толькі ў вёсачках, невялічкіх мястэчках і гарадках накшталт цяперашняга Турава, а на бульварах і праспектах мегаполісаў, у паўсядзённым жыцці кожнага, хто лічыць сябе беларусам і жыве на спрадвечнай зямлі, дадзенай нам Усявышнім.

Таму што неўміручасць мовы — моц народа і веліч дзяржавы.

**Анатоль КАЗЛОЎ**




Тураў сённяшні

***Інтэрв'ю першага намесніка міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Ліліі АНАНІЧ газеце "Літаратура і мастацтва" з нагоды Дня беларускага пісьменства***

**— Шаноўная Лілія Станіславаўна, якое, на вашу думку, месца займае Дзень беларускага пісьменства ў шэрагу іншых свят нашай краіны?**

— Дзень беларускага пісьменства адзначаецца ў нашай краіне ў адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 26 сакавіка 1998 г. "Аб дзяржаўных святах, святочных днях і памятных датах у Рэспубліцы Беларусь". Яго асноўным арганізатарам з'яўляецца Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Разам з тым, падрыхтоўка да святочных мерапрыемстваў, разгляд пытанняў падрыхтоўкі гарадоў да свята ажыццяўляецца на ўзроўні нацыянальнага аргкамітэта. За час свайго існавання свята стала па-сапраўднаму нацыянальным, важным набыткам культурнага жыцця краіны.

Канцэпцыя свята прадугледжвае паказ непарыўнай сувязі беларускага друкаванага слова з гісторыяй нашага народа, асэнсаванне шматвяковых духоўных традыцый беларусаў, еднасці нашай культуры з культурамі братніх славянскіх народаў. Словам, галоўны, так бы мовіць, стрыжань, аснова гэтага свята — духоўнасць, мастацкае слова, якое заўсёды адыгрывала надзвычай важную ролю ў жыцці беларусаў.

— Пра высокую дзяржаўную ўвагу да свята сведчыць і тое, што кожны год удзел у ім прымае вышэйшае кіраўніцтва краіны. Сёлета, як у 2001 годзе, ва ўрачыстых мерапрыемствах прымае ўдзел Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка. Пастаяннымі ўдзельнікамі і гасцямі свята з'яўляюцца кіраўнікі міністэрстваў і ведамстваў, прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса, навукоўцы, дзеячы культуры і мастацтва.



Традыцыйна свята праводзіцца ў гарадах — цэнтрах асветы і кнігадрукавання, з якімі непарыўна звязаны жыццё і дзейнасць славутых дзеячаў Беларусі розных часоў. Упершыню свята было праведзена ў 1994 г. у Полацку. Пасля яго сталіцамі былі Тураў, Наваградак, Нясвіж, Орша, Пінск, Заслаўе, Мсціслаў, Мір. Дзесятае, юбілейнае свята ў мінулым годзе зноў вітаў старажытны Полацк.

Вельмі важным, на мой погляд, аспектам свята з'яўляецца тое, што гарады, у якіх яно праходзіць, рыхтуюцца да свята не толькі з пункту гледжання правядзення святочных мерапрыемстваў і прыёму шматлікіх гасцей. Мяняе свой знешні выгляд і сам горад — рамантуюцца вуліцы, плошчы, дамы, добраўпарадкоўваюцца ўсе гарадскія тэрыторыі. Праводзяцца работы па рэстаўрацыі гістарычных помнікаў, да свята прымяркоўваецца адкрыццё новых. Акрамя таго, адкрываюцца і многія сацыяльна значныя аб'екты культуры, адукацыі, сацыяльнай сферы, турыстычна-гасцінічнага комплексу. Так, напрыклад, тыя ж Заслаўе і Мір, дзякуючы святу, набылі, без перабольшання, сучасны еўрапейскі выгляд, што, безумоўна, будзе спрыяць іх далейшаму развіццю. Тураў, дзе праводзіцца сёлетняе свята, набыў статус горада, памаладзеў і, упэўнена, стане ў хуткім часе адным з турысцкіх цэнтраў.

**— У чым асноўныя асаблівасці сёлетняга святкавання?**

— Па-першае, свята будзе праходзіць на надзвычай высокім узроўні — пра гэта сведчыць удзел у ім кіраўніка дзяржавы — Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі.

Па-другое, як ніколі шырока ў гэтым годзе на свяце будзе прадстаўлена беларуская кніга, вынікі працы айчынных выдавецтваў. Так, на Замкавай гары размесціцца выставачны павільён "Кнігі Беларусі", у якім на плошчы 100 кв.м будуць прадстаўлены больш за 900 выданняў. Сярод іх вылучу экспазіцыю, прысвечаную 60-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў (45 кніг ваенна-патрыятычнай тэматыкі і серыя з 29 Хронік Памяці па Гомельскай вобласці), апошнія тамы 18-томнай Беларускай энцыклапедыі, шэраг навукова-метадычных выданняў, кнігі — лаўрэаты I Міжнароднага конкурсу краін СНД "Мастацтва кнігі", "Михаил Пташук" і Владимир Мулявин. Нота судьбы" (выдавецтва "Мастацкая літаратура"), "Жанчыны Беларусі" і іншыя. Асобнай экспазіцыяй "Тураў: гісторыя і сучаснасць" будуць прадстаўлены выданні, прысвечаныя Тураўскаму краю.

Дарэчы, установа "Літаратура і Мастацтва" таксама прыме самы актыўны ўдзел у мерапрыемствах — прэзентуе цікавыя кнігі, літаратурна-мастацкія перыядычныя выданні.

На свяце ў Тураве будзе шырока прадстаўлена і беларуская прэса — на цэнтральнай плошчы горада адбудзецца Фестываль прэсы, на якім будуць прадстаўлены вядучыя грамадска-палітычныя, маладзёжныя і дзіцячыя, літаратурна-мастацкія і культуралагічныя, навукова-метадычныя газеты і часопісы Беларусі. У праграме фестывалю — выстаўка прэсы, прэзентацыі газет і часопісаў з удзелам музычных выканаўцаў, шматлікімі конкурсамі і віктарынамі, сумесны праект СМІ і ЮНІСЕФ "Моладзь за здароўе і развіццё", — словам, і тут удзельнікаў і гасцей чакае не проста пазнаваўчае мерапрыемства, а цікавае і займальнае відовішча, далучыцца да якога зможа кожны, хто будзе 5 верасня ў Тураве.

Яшчэ адна асаблівасць сёлетняга свята палягае ў тым, што яго арганізатары не абмежаваліся адным толькі Туравам. Святочныя мерапрыемствы пачынаюцца 4 верасня ў Гомелі — у гэты дзень у горадзе над Сожам адбудуцца адкрыццё помніка Кірылу Тураўскаму і цэнтральнай часткі Палаца Румянцавых-Паскевічаў.

Акрамя таго, пазначаныя высокай духоўнасцю мерапрыемствы па тэматыцы Дня беларускага пісьменства адбудуцца ў бібліятэках і дамах культуры, гарадскіх і вясковых школах, вышэйшых навучальных установах.

**— Яшчэ адно пытанне. Што можна сказаць сёння пра асаблівасці развіцця айчыннага кнігавыдання, увогуле сферы інфармацыі і друку на Беларусі?**

— Дзень беларускага пісьменства — гэта найперш свята ўсіх тых, хто мае дачыненне да мастацкага слова: пісьменнікаў, журналістаў, выдаўцоў, паліграфістаў і распаўсюджвальнікаў друкаванай прадукцыі. Сфера інфармацыі і друку ў нашай краіне развіваецца вельмі дынамічна. На інфармацыйным полі Беларусі — 1282 перыядычныя выданні, 9 інфармацыйных агенцтваў, 187 тэлерадыёпраграм. Сёння ў краіне працуюць 6 дзяржаўных рэспубліканскіх выдавецтваў, ліцэнзіі на выдавецкую дзейнасць маюць таксама больш за 400 арганізацый розных форм уласнасці.

Толькі ў першым паўгоддзі бягучага года на Беларусі выдадзена больш як 4,7 тысячы кніг і брашур агульным тыражом звыш 18 мільёнаў экземпляраў. Пры гэтым выпуск літаратуры на беларускай мове ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года павялічыўся па назвах — на 7 працэнтаў, а па тыражы — на 10 працэнтаў. Для дзяржаўных патрэб у I паўгоддзі 2004 года выпушчаны 173 назвы кніг тыражом больш як 2 мільёны экземпляраў.

**Сярод сацыяльна значных прыярытэтаў — такія напрамкі, як серыя "Беларуская энцыклапедыя", Хронікі Памяці, кнігі для папаўнення фондаў публічных бібліятэк, выпуск падручнікаў для агульнаадукацыйнай школы. Зараз ужо выдадзена 136 са 146 кніг Хронік Памяці, уся работа будзе завершана да 2005 года.**

Працягваецца пастаўка літаратуры ў бібліятэкі для папаўнення іх фондаў. За паўгоддзе пастаўлена 10 назваў сацыяльна значных кніг агульным тыражом 15 тысяч экземпляраў.

Асабліва адзначу выпуск кніг да 60-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Выдавецтва "Беларусь" выпусціла дакументальную аповесць М.Дуброўскага "Бессмертие подвига", кнігу Л.Бешанава "Брестская крепость", камплекты паштовак "Хатынь" і "Дальва", ілюстраваную храналогію "Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне". Выдавецтва "Мастацкая літаратура" — творы Б.Сачанкі, І.Чыгрынава, А.Адамовіча, І.Шамякіна, М.Чаргінца. Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва" падрыхтавала дакументальна-мастацкае выданне "Наша Перамога". Іншымі выдавецтвамі і выдавецкімі арганізацыямі выпушчана больш як 70 кніг і брашур, прысвечаных гэтай знамянальнай даце.

Пра міжнароднае прызнанне ўзроўню працы беларускіх выдаўцоў сведчаць і вынікі I Міжнароднага конкурсу "Мастацтва кнігі" краін СНД, якія былі зусім нядаўна падведзены ў Маскве. Усяго журы прысудзіла 41 дыплом, 14 з якіх атрымалі беларускія кнігі.

Дзяржава працягвае аказваць дапамогу і сацыяльна значным перыядычным выданням. Сёння са сродкаў рэспубліканскага бюджэту выдзяляюцца датацыі на выпуск шэрагу літаратурна-мастацкіх, навукова-метадычных, маладзёжных, дзіцячых, спецыялізаваных, грамадска-палітычных выданняў. У 2003 годзе на гэтыя мэты з рэспубліканскага бюджэту было выдаткавана 3,5 мільярда рублёў, план датацыі на 2004 год — 4 мільярда рублёў, з якіх на сённяшні дзень рэдакцыям накіравана 2,2 мільярда рублёў.

Вельмі істотныя змены апошнім часам адбыліся і на рынку электронных СМІ. Сёння ў Беларусі дзейнічаюць, па сутнасці, чатыры агульнанацыянальныя тэлеканалы — "Першы нацыянальны тэлеканал", "Лад", "Агульнанацыянальнае тэлебачанне" і "Сталічнае тэлебачанне". Таксама ажыццяўляюць вяшчанне рэгіянальныя тэлерадыёкампаніі, 22 FM-станцыі...

Такая разнастайнасць інфармацыйнага рынку гарантуе кожнаму грамадзяніну Беларусі магчымасць атрымаць поўную і аб'ектыўную інфармацыю пра падзеі, што адбываюцца ў Беларусі і за яе межамі.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка на замкавай гары. Тураў, красавік 2004 г.

# Пятро Савіцкі: "Тураў — калыска нашай дзяржаўнасці"

***Гутарку са старшынёй Жыткавіцкага райвыканкама мы запісалі за некалькі тыдняў да Свята пісьменства.***

— Пасля мінулагодняга Дня пісьменства, які прайшоў ў Полацку, было дакладна вызначана, што наступнае свята пройдзе ў Жыткавіцкім раёне, у гарадскім пасёлку Тураве — тады ён так яшчэ называўся. Але 3 жніўня гэтага года прынята пастанова Савета Міністраў, згодна якой гарпасёлак Тураў атрымаў статус горада раённага падпарадкавання. Гэта было зроблена па даручэнні кіраўніка дзяржавы, які падчас красавіцкага візіту даручыў надаць асаблівае значэнне гэтаму гістарычнаму мястэчку.



**— Віншуем шчыра! Новы статус адаб'ецца нейкім чынам на фінансаванні!**

— Доўгі час у фінансаванні ўдзельнічалі толькі абласны і раённы бюджэты. Аднак 6 жніўня тут прайшло пасяджэнне нацыянальнага аргкамітэта Свята з удзелам віцэ-прэм'ера. Уладзімір Дражын паабяцаў, што з рэспубліканскага бюджэту будзе выдзелена каля 2,5 млрд. рублёў. Раней каля 1 млрд. было выдзелена з абласнога бюджэту.

Трэба сказаць, што зрабілі свой унёсак і "прыватнікі", і звычайныя грамадзяне. Да прыкладу, прадпрыемства "Гомельтранснафта", што абслугоўвае нафтаправод "Дружба", выдзеліла 500 млн. для прывядзення ў парадак аб'ектаў адукацыі Турава. Сапраўды, сімвалічна тое, што нашыя школы і бібліятэкі атрымалі фінансаванне ў першую чаргу, бо Тураў — перш-наперш асветніцкі цэнтр. А жыхары з усёй Гомельскай вобласці сабралі на аднаўленне тутэйшых гістарычных помнікаў каля 114 млн., прычым сумы ахвяраванняў былі ад адной да некалькіх соцень тысяч рублёў.

**— Сродкаў дастаткова, як вы лічыце?**

— На жаль, у нас сёння не хапае сродкаў, каб на ўсе вуліцы пакласці асфальт, але ўсе яны прыведзены ў парадак.

А ў цэлым у горад Тураў падчас падрыхтоўкі да свята ўкладзена каля 5 млрд. рублёў — за адзін год сума немалая. Тым больш, усе мы сыходзімся на меркаванні, што гэта толькі пачатак: літаральна праз 10 дзён пасля Свята пісьменства тут адбудзецца пасяджэнне камісіі па падвядзенні вынікаў. І вось яна ўжо будзе планаваць нейкія мерапрыемствы на наступны год.

Мяркуецца, што пройдуць раскопкі, будзе раскрыты падмурак храма на замкавай гары. Дарэчы, там плануецца зрабіць музей адкрытага тыпу: гэта значыць, старажытны помнік пачне экспанавацца, знаходзячыся пад дахам, каб падмурак не руйнаваўся пад уплывам прыродна-кліматычных умоў. Пакуль існуе толькі адзін падобны музей на Беларусі — экспазіцыя "Бярэсце".

Да нашага сораму, дагэтуль у Тураве не мелася гістарычных помнікаў, якія можна было б пабачыць турысту. Стварэнне музея — першы крок у выпраўленні сітуацыі. Бо, па словах нашага славутага археолага Пятра Лысенкі, тут знаходзіцца трэці пасля Кіева і расійскага Ноўгарада аб'ект пакланення ўсходніх славянаў — усыпальніцы тураўскіх князёў.

Гэта яшчэ раз гаворыць пра тое, што Тураў — гісторыка-культурны цэнтр, калыска нашай дзяржаўнасці, — і на гэта павінны звярнуць увагу, каб і праз стагоддзі наша гістарычная спадчына засталася спадчынай, якую можна памацаць, а не ператварылася ў легенды і паданні.

Наш урад, мясцовыя выканаўчыя камітэты зробяць усё, каб нашчадкі не змаглі нас абвінаваціць у тым, што мы не захавалі такой гістарычнай каштоўнасці.

**— Плануецца толькі рэканструяваць тое, што ёсць? Ці мо аднаўляць з руін тое, што знішчана цягам стагоддзяў?**

— Адказ на гэтае пытанне будзе вядомы восенню, з распрацоўкай доўгатэрміновай праграмы развіцця рэгіёна. Безумоўна, мы б хацелі адбудаваць нанова некаторыя аб'екты — у першую чаргу, каб мець што паказаць турыстам. Безумоўна, для гэтага трэба час і немалыя грошы, якія можа даць толькі бюджэт краіны.

Але і з існуючымі аб'ектамі спраў багата. На апошнім пасяджэнні, напрыклад, абмяркоўвалася, што Тураў мае патрэбу ў новым будынку краязнаўчага музея... Калі мы маем на мэце прывабіць сюды турыстаў, то і гасцініца павінна быць адпаведнага ўзроўню. Вядома, што 28-га красавіка тут адбылося пасяджэнне з удзелам кіраўніка дзяржавы, на якім вызначылі: Тураў будзе з'яўляцца цэнтрам турызму на Палессі. Таму адпаведная інфраструктура павінна і будзе развівацца, і будаўніцтва сучаснай гасцініцы — будзе першы крок: яе мы плануем здаць у наступным годзе.

У апошнія дзесяцігоддзі — асабліва пасля пазбаўлення статусу райцэнтра — Тураў быў незаслужана забыты на ўсіх узроўнях. Але з наданнем яму новага, асаблівага статуса, лічу, увага да горада зноў будзе звернутая на належным узроўні. Да таго ж, нядаўна стала вядома, што зараз ідзе праца над праектам "Турыстычнае кальцо Гомельшчыны", і наш горад таксама ў яго ўваходзіць.

**Марына ЦЯРЭШЧАНКА,**
**Мікалай АНІШЧАНКА**

# Светачы тураўскай зямлі

**Сёлета свята беларускага пісьменства адбудзецца ў Тураве. Глыбока сімвалічна, што аднаму са старажытнейшых цэнтраў айчыннай культуры, асветы, дзяржаўнасці зноў вернуты статус горада. У адказны час складвання цеснага духоўнага пабрацімства трох усходнеславянскіх краін Сабор беларускай святасці вызначалі постаці асветнікаў-падзвіжнікаў, здольных аб'яднаць дзяржаўную пасіярнасць і глыбокую духоўнасць у сэрцы кожнага чалавека. Уся самаахвярная дзейнасць святціцеля Кірылы Тураўскага была падпарадкавана велічнай ідэі служэння, падтрымкі ў нягодах і выпрабаваннях кожнага чалавека.**



Надзвычай важны экзістэнцыяльны момант уваходжання ў свет Сярэднявечча, у яго іерархію духоўных каштоўнасцей і ацэнак. Без уліку светабачання і аксіялагічнай шкалы сярэднявечнага чалавека немагчыма спасціжэнне фенаменальнай культуры старажытнай кніжнасці, яе загадкава дасканалага ўзроўню. У гэтай аксіялагічнай шкале, як ужо адзначала Св. Пісанне, запавет — дамова Бога з чалавецтвам, Кніга кніг, суаднесеная з другой Кнігай — разгорнутай Творцам Прыродай — Сусветам, у які ўселены вянцовае Яго тварэнне Чалавек разумны для прахоAджання сваёй унікальнай эвалюцыі.

«Сярэднявечны розум, — адзначае мадыявіст А. В. Ахуцін, — утвораны не як пазнавальная здольнасць. — Два тэзісы вызначаюць яго рух і ўнутраную форму: Credo ut intelligam — Intelligo ut credam — верую, каб разумець, і разумею, каб верыць. Спасцігальная думка зыходна засяроджана на Божым Слове і пранікнёна ўвагай да Яго, бо «Усё праз Яго сталася, і без Яго нічога не пачалося з таго, што пачало быць» (Ін. І;3)».

Словам, паводле Св. Пісання, тварыўся Сусвет, з Крэацыйным Словам тоесна сама Стваральная іпастась Божай Троіцы, таму да слова, пісьма, кнігі, культуры выказвання ў родзе людскім культываваліся адносіны як да свяшчэннадзейнай небанатхнёнай справы. Гэтая высокая традыцыя ўзыходзіць да прабацькоў чалавечых, незлічоныя ранneклінапісныя помнікі даносяць сапраўдны культ кніжнасці як самага пачэснага роду заняткаў старажытнасці. У найменні першагарадоў чалавечай цывілізацыі: Вавілона, Ура, Акада, Кіша, Эрэха, Лагаша, Эрыду, Ніпура, Ларса, Фары, Бібласа, звычайна меўшых некалькі назваў, гісторыкі адкрываюць этымалогію ці «горад кнігі», ці «бібліятэка», ці «горад перапісчыкаў».

Гістарычнае паданне даносіць надзвычайную перасцярогу для старажытнага пісца «Сын мой, будзь памежна абачлівы пры перапісванні Слова Божага, бо не дапісаўшы адзін знак ці ўносячы лішні, ты можаш парушыць Сусвет».

Старажытнымі Біблія ўспрымалася як уласнае Слова Творцы на чалавечай мове.

Слуханне Евангелля ўвесь час на роднаснай мове за богаслужэннем прымушала памятаць аб Хрысце і захоўваць яго жывы вобраз у сэрцы.

Менавіта біблейскі пераклад быў праваднікам першага паўднёваславянскага ўплыву на землі Кіеўскага, Полацкага, Турава-Пінскага і Смаленскага княстваў. Натуральна, таму ля калыскі нашага пісьменства стаіць Царква з роўнаапостальнымі салунскімі братамі Кірылам і Мяфодзіем, саборам Беларускіх і Кіева-Пячэрскіх святых, выспаведнікаў, падзвіжнікаў асветы ў краі. Святы Кірыла Тураўскі неаднойчы зазначаў, што менавіта манастыры былі цэнтрамі кніжнасці, а інакі — стваральнікамі літаратурнай мовы. Пра асвету беларускі святціцель пісаў як пра непасрэдна манашаскую справу: «Не глаголите: жену имам и дети кормлю лі дом строю, лі князю служу, ли власть держу, лі ремество; да не наше есть дело почитанне книжное, но чернечьское».

Разгадку геніяльнага дзеяння першанастаўнікаў славенскіх па стварэнні алфавіта сучасныя даследчыкі схільны бачыць у гэтых якасна іншых, менавіта анталагічна свяшчэннадзейных адносінах да слова, пісьменства, кнігі. Яны зыходзілі з перакanання, што "пісьмо — гэта малітва народа да Творцы аб самым існым, сакральным. Пра строгую, нязменна перыядычную сістэму алфавіта сведчыў сам факт дапасаванасці лічбаў да літар". Гэтая сувязь, на думку вучоных, забяспечваецца хвалевай прыродай літар (гукаў алфавіта, якая ахоплівае ўсе працэсы, як адзінае цэлае, і для зямлі, і для Космасу).

Вось чаму ўся сярэднявечная кніжнасць вызначалася асаблівай увагай да слова, бояззю змяніць літару ў слове ці значок у дыграфе, каб не парушыць сувязь з Творцам, Логасам і Сусветам. Згадаем, што былі нават не рэформы пісьма, а толькі цярплівае і пакутлівае выпраўленне кніжнае, а кожнаму грунтоўнаму перакладу Бібліі папярэднічаў адпаведны ў параўнанні з папярэднім звод кніг Св. Пісання.

Ў цэлым уся рэлігійная асвета вызначалася павагай да тэксту, стаўленнем да яго як да кананічнай узорнай сістэмы існавання слова. Таму зусім не парадаксальны тэзіс, што сярэднявечная культура была значна больш духоўнай і больш інтэлектуальнай, пазнавальна больш удумлівай, чым сучасная, бо будавалася на шматразовым прачытанні аднаго тэксту, а не аднаразовым шматлікіх, невыпадкова яе ўважлівы і пільны погляд вельмі часта быў значна бліжэйшым да сутнасці з'явы, чым мітуслівы — Новага часу. Слова ў тую эпоху было тоесна «Святой Святых», ужыць і занатаваць яго пісьмова дазвалялася толькі пасля духоўнага ачышчэння.

Таксама варта згадаць, што святая роўнаапостальная Вольга заходзіла з новазапаветнай пропаведдзю пасля прыняцця ёй хрысціянства ў Канстанцінопалі па Дняпры і Прыпяці ў Тураў, а потым у Полацк і Віцебск. Пра падзвіжніцкае служэнне княгіні асвеце краю сведчыць старажытная лірніцка-багамольская песня: «О, прыйшла да нас Божая княжна Вольга!»

Сярод першых, хто ўспрыняў святло хрышчэння ад святога Уладзіміра, быў напаўлегендарны князь Тур, у Кіеве нават захавалася царква ў імя святога Тураўскага мучаніка, а месца пакут яго імянуецца «святым месцам». Пашырана на Палессі і легенда пра пакутніка і выспаведніка Дзіянісія Тураўскага, аднаго з паслядоўнікаў і вучняў легендарнага Тура, які загінуў ад паганцаў у селішчы Міхнавічы, што паміж Туравам і Мазыром. Згодна жаданню Уладзіміра Вялікага, пры Святаполку і ў Тураве заснoўваецца на чале з еп. Фамою епіскапская кафедра, якая ўключала ў сваю юрысдыкцыю гарады: Пінск, Наваградак, Гародню, Бярэсце, Ваўкавыск, Слуцк, Копысь, Ляхавічы і інш.

Сапраўдны росквіт Турава пачаўся пры Святаполку ІІ, малодшым сыне Яраполка Кіеўскага, які з 1087 па 1093 гг. сядзеў князем тураўскім, стаў вядомым у краі сваёй асветніцкай дзейнасцю, спрычыніўся да стварэння Тураўскага летапісу.

З палескіх святых найбольш вядомы Марцін Тураўскі, якога ў час цяжкога прыступу хваробы, калі ніхто з манахаў не мог яму дапамагчы з-за паводкі на Прыпяці, Гасподзь ацаліў праз нябесных заступнікаў святых мучанікаў Барыса і Глеба. Гэтыя звесткі даносіць да нас «Слова аб Марціне-мніху» з тураўскай рэдакцыі жыція святых Барыса і Глеба, магчыма, прымеркаванага (1072 г.) да стагоддзя праслаўлення першых усходнеславянскіх святых. Да прыняцця інацкага чыну Марцін служыў поварам у епіскапаў Сімяона, Ігнація і Іаакіма з 1120 па 1146 гг., потым падвізаўся інакам Барысаглебскага манастыра, нават сышоў у затвор. Сярод мяркуемых аўтараў «Слова аб Марціне-мніху» даследчыкі называюць Кірылу Тураўскага.

Адной з вяршынь святасці Тураўскай зямлі стаўся святціцель Лаўрэнцій (памяць — 29 студзеня (11 лютага), пераемнік (1184 г.) Кірылы Тураўскага на епіскапскай кафедры. Паводле меркаванняў даследчыкаў, святы нарадзіўся ў 30-я гады ХІІ ст. на Тураўшчыне. Падвізаўся ён напачатку ў Барысаглебскім Тураўскім манастыры, потым перайшоў у Пячоры, прыняў затвор у келлі суседняга манастыра ў гонар святога вялікамучаніка Дзімітрыя Салунскага. Згадаем, што Дзімітрыеўскі манастыр быў усыпальніцаю князёў тураўскіх і іншых нашчадкаў Ізяслава. Напрыклад, Яраполк-Пётр імкнуўся ўзвесці царкву ў гонар першавярхоўнага апостала Пятра, князь, а потым яго дачка Анастасія, жонка Глеба Мінскага, асабліва падтрымлівалі гэты храм і Кіева-Пячорскую Лаўру. Подзвіг затворніцтва манаха Лаўрэнція быў прыняты Госпадам, і ён спадобіўся дара цудадзейных ацаленняў і выгнання злых духаў. Надзвычайная сціпласць святога выявілася і ў тым, што, калі нейкі кіяўлянін, апантаны злымі духамі, прынесены роднымі, прасіў у Лаўрэнція Тураўскага ацалення, то падзвіжнік, каб пазбегнуць славы людской, загадвае несці знямоглага ў Пячоры. Неўзабаве пасля свайго адыходу да Госпада святы пачаў мясцова ўшаноўвацца, ён услаўляецца ў дзевятай песні другога трапара канона кіева-пячэрскім святым (XVII ст.).

Каноны, прытчы, асабліва малітвы св.Кірылы, прызначаныя для гадавога кола царкоўнага богаслужэння, вельмі павучальныя і для кожнага чытача як вопыт манашаскай школы вышэйшага духоўнага ўдасканалення, для тых, хто даспеў да неабходнасці нямарнага праходжання свайго шляху і дзён зямных.

Таму яны такія пераканаўча-кранальныя як экзістэнцыяльная біяграфія адной душы, як шлях да ачышчэння.

Цяжкое гэта расчытванне лапідарнай стараславянскай вязі ў стылі «пляцення славес» спадчыны св. Кірылы, але яно ўдзячна адорыць кожнага вялікай навукай духоўнага спазнання чалавека, пераадолення безданяў падзення на пакутлівых шляхах да сусветнага ўзыходжання, уваходжання ў Вечнасць.

Пазначаныя намі ў «Малітве в понедельник по часах» інтанацыйныя сінтагмыколаны выяўляюць у празаічных перыядах нашага часу ўзорна вытрыманую вымаўляльную і амаль графічную складовую ізахроннасць, рытмічную ўпарадкаванасць, якая свабодна кладзецца на лад літургічнай псалмодыі.

Цыкл прытчаў св.Кірыла яскрава паказвае, што беларуская і ў цэлым усходнеславянская школа экзэгетыкі складвалася ў падкрэслена алегарычным напрамку, які ўзыходзіць да раннехрысціянскіх яе ўзораў («Страматы» Клімента Александрыйскага і інш.). Сімвалічнае талкаванне — умельства найвышэйшае, боганатхнёнае, з мноства спроб яго застаюцца ў часе толькі нешматлікія жамчужыны патрыстыкі. Таму і прыдатны для яго жанр прытчы — мастацтва адказнае. Уласна біблейская прытча, шматслойнае змястоўнае ўтварэнне, утрымлівае ў сабе касмічныя бездані іншасказальных прыпадабненняў і так альбо інакш звязана з усёй правобразнай сістэмай Бібліі. Як выяўляецца на павер, гэта нават не жанр, а тып, характар алегарычнага бачання Сусвету ў яго суцэльным крэацыйным разгортванні, дзе універсальнымі правобразамі-сімваламі выступаюць не толькі падзеі гісторыі (спакушэнне праайцоў Дрэвам пазнання дабра і зла, кара Божая катаклізмам Сусветнага патопу, спаленне нябесным агнём за распусту Садома і Гаморы), але і касмагонія (Шэсць дзён тварэння), генеалогія, лесвіца біялагічных відаў, яўгеніка народаў паводле Біблейскай Этнаграфічнай Табліцы.

Толькі ў прытчах ужо іншы ўзровень разважання, чаму і выбрана гэтая ўскладнёная філасофская форма. Дарэчы, калі гаварыць пра нейкія наследаванні, то прытчавы трыпціх нашага суайчынніка можна было б зблізіць з рэдкасным трактатам раннехрысціянскага атрапалага Немезія Эмескага «Аб прыродзе чалавека» (др. пал. V — пач.VI стст.), хоць малаверагодна яго даступнасць усходнеславянскай кніжнасці тае пары.

Уводзіны (паводле рытарычнай тэрміналогіі — эксордыум) твора пра душу і цела, ці пра сляпца і храмца складае варыяцыя евангельскай прытчы аб чалавеку, які, адшукаўшы жамчужыну (па аўтарскім выразе «скарб вечнага жыцця») — Слова Божае, усё прадае, каб купіць поле тое і аддаваць сваю працу і дні на дасягненне Царства Нябеснага.

Гэтая дамінантная лінія прытчы сведчанне і асабістых жыццёва-філасофскіх шуканняў святціцеля. Жыццё чалавецтва ў богададзеным вертаградзе зямным і сам чалавек як храм, вобраз і падабенства Божае, калі ён агароджаны і пасомы маральным законам і мудрымі запаветамі, вянчае гара чалавечага выратавання — манастыр, адкуль зыходзіць святло сонцазорнае. У прытчах гэты лейтматыў вар'іруецца, падкрэсліваецца, выносіцца ў абагульненне: жыццё манашаскае, узнятае з прыроднага, спажывецкага існавання да анёльскага стану насельнікаў звышніх светаў, ззяе цудамі «паче мірское власти», таму «мірськыя вельможи свою поклоняють мнихом главу, яко Божиим угодником достойную въздаюше честь».

Вобраз пачатку пачаткаў, які спраменяе на зямное жыццё жыватворнае святло, прываблівае многіх мастакоў. У М.Чурлёніса ў яго вядомай карціне «Казка каралёў» — гэта вёска ў мініяцюры, якая ззяе каштоўным каменем у руках схіліўшых да яе свае кароны ўладык.

Але існыя сімвал і крыніца сонцазорнага святла, перад якім схіляе галаву чалавецтва, паводле вобразнай сістэмы іншасказанняў беларускага экзэгета, гэта ўжо на зямлі святаноснае жыццё бяссрэбранікаў, малітоўнікаў за ўвесь сусвет, гатовых абняць яго сваёй любасцю і апекай.

**Алена ЯСКЕВІЧ,**
**доктар філалагічных навук**

***На здымках: алавяныя абразкі XIII ст. з Турава.***

# Валадар слова



Кірыла Тураўскі. Літаграфія сучаснага беларускага мастака Пятра Драчова

*"Мова людзей такая, якім было іх жыццё."*
**Сенека**

Сярэднявечча... Старажытная Русь... Тураўскае княства... Далёкая мінуўшчына, колькі б яе не вывучалі, застаецца загадкавай і таямнічай. Чым далей мы ад старажытнасці, тым, здаецца, цяжэй зразумець духоўнасць і мысленне продкаў, тым большую велічнасць набываюць легендарныя постаці даўніны: Святаполк, Уладзімір Манамах, Кірыла Тураўскі...

Імя Кірыл паходзіць ад грэчаскага "валадар". Валадаром слова, Златавустам паводле вызначэння сучаснікаў быў Кірыла Тураўскі — паэт і красамоўца ад нараджэння і святар па прызванні. Старажытнае "Жыцце" гэтага святога дае пра яго вельмі скупыя звесткі і амаль не раскрывае як асобу. Тым не менш, Кірыла Тураўскі ўяўляецца валявым, моцным духам чалавекам, таленавітым творцам, неабыякавым да жыцця свайго народа і лёсу Бацькаўшчыны.

З багатай творчай спадчыны Златавуста зберагліся 8 "Слоў"-пропаведзяў, сярод якіх "Слова на вербніцу" і "Слова на вялікдзень", павучальныя аповесці-прытчы "Аповесць пра беларызца і манаства", "Казанне пра чарнарызскі чын", "Прытча пра душу і цела (пра сляпога і кульгавага)", некалькі канонаў і каля 30 малітваў. Прапаведніцкія прамовы Тураўскага стварылі яму славу аратара, празаічныя "Словы" і прытчы ўславілі яго як... паэта.

Так, Кірыла Тураўскі па праве лічыцца вялікім паэтам, пачынальнікам беларускай паэтычнай традыцыі, які стаіць ля вытокаў нашага прыгожага пісьменства. Актыўны грамадскі і рэлігійны дзеяч, які прапаведаваў ідэю незалежнасці роднага княства і адзінства Старажытнай Русі, змагаўся супраць падману і зла за духоўнае высакародства, веру і дабро, быў эмацыйным прамоўцам і тонкім лірыкам.

*"Ныне солнце, красуяся, к высоте въсходит и, радуяся, землю огревает: възыде нам от гроба праведное Христос и вся верующаа Ему спасает. Ныне луна с вышняго съступивши степени болшему светилу честь подавает (...) Ныне зима греховная покаянием престала есть и лед неверия богоразумием растаяся (...) Днесь весна красуется, оживляющи земное естьство, и бурнии ветри тихо повевающе плод гобзуют, и земля семена питеющи зеленую траву ражает"*, — так вобразна-метафарычна прамаўляў Златавуст у "Слове на вялікдзень".

Унікальнасць твораў святога Кірылы ў тым, што — насуперак усім сярэднявечным літаратурным канонам з іх безасабовасцю, безэмацыйнасцю і безкаляровасцю выказвання — яны выяўлялі багатае асацыятыўнае мысленне аўтара, былі насычаны шчырымі пачуццямі, яркімі вобразамі, бліскучымі метафарамі, узнёслымі эпітэтамі, разгорнутымі параўнаннямі, сімволікай і алегорыяй, адрозніваліся жывасцю мовы і рытмічным ладам. Гэта сапраўдныя вершы ў прозе.

Высокадухоўная асоба і таленавіты творца Кірыла Тураўскі пісаў па сваіх канонах высокай мастацкай культуры, якія сталі падмуркам кніжнай і моўнай культуры ўсходніх славян. Ён паказаў узор прыгожага пісьменства і падаў прыклад майстэрскага валодання словам.

**Наталля ДЗЯНІСАВА**

**Кірыла Тураўскі — славуты старажытнарускі пісьменнік-прапаведнік, царкоўны дзеяч, майстар аратарскай прозы.**

- Нарадзіўся каля 1130 года ў Тураве ў сям'і багатых мяшчан.
- Прыкладна ў дзесяцігадовым узросце, атрымаўшы высокую па тым часе адукацыю, пайшоў у манастыр паслушнікам, пасля пастрыгся ў манахі пад імем Кірыла. Свецкае імя невядома.
- Каля 1143 г. стаў іераманахам, прыкладна з 1144 па 1148 гг. быў ігуменам.
- Да 1147/48 г. можна аднесці пачатак затворніцтва Кірылы Тураўскага, які, умураваўшыся ў каменную вежу, еў толькі чорны хлеб, піў ваду, чытаючы Святое пісанне і малітвы.
- Прыкладна ў 1159 годзе быў абраны Тураўскім епіскапам.
- Апошнія гады жыцця правёў у епіскапскім Барысаглебскім манастыры. Памёр каля 1182 года. Пахаваны на Барысаглебскіх могілках.

**Валянцін ЛУКША**

## Казанні Кірылы Тураўскага

*Ціхія*
*Няспешныя маленні...*
*Жыў без тлуму і благіх*
*спакус*
*Апантаны Богам летуценнік —*
*Тураўскі святы залатавуст.*

*Пад іконай ён прасіў уранні*
*Добрай справай перапоўніць дзень...*
*І з глыбінь душы сваёй казанні*
*Выкрасаў старанна для людзей.*

*Ў іх —*
*Турботы пра душу і цела,*
*Ў іх —*
*Турботы пра жыццёвы шлях.*
*Каб рака памкненняў*
*не змялела,*
*Каб агонь у сэрцы не ачах.*

*Будзе вера*
*у Хрыста нязводнай,*
*Калі ёй да кропкі давяраць.*
*Запаведзі светлыя Гасподні*
*Да адрыны чорнай захаваць.*

*Каб душу не мучылі сумненні*
*Трэба круг прайсці сваіх пакут,*
*Верыць непахісна*
*ўваскрасенню,*
*Ў справядлівы верыць Божы суд.*

*Дзе анёлы без маны рассудзяць,*
*Як ты па сваіх*
*шляхах прайшоў,*
*Ці азмрочыў цёмнай справай*
*будзень,*
*Ці прынёс з сабою мех грахоў?..*

*Калі так,*
*То пад пры̂глядам бесаў*
*Ты пакутваць будзеш*
*за грахі,*
*На дарогах праліваць*
*нябесных*
*Ручаі сухія слёз сухіх...*

*Калі ж быў заўжды*
*душою чысты,*
*Суддзям непадкупным*
*давярай, —*
*Брама расчыняецца ўрачыста*
*Для цябе у вечны Божы рай...*

*Дык хутчэй у келлю*
*за развагі*
*Ўскрыленыя думкі запісаць...*

*Бог жыццё людзей кладзе*
*на вагі —*
*Ім так трэба Праўду*
*падказаць...*

**Генадзь ПАШКОЎ**

## У далонях свету гарадок

*У далонях свету...*
*Ці ж знайсці*
*на паўшар'ях*
*сініх кантынентаў?!*
*Да яго сцяжынаю дайсці*
*больш зручней,*
*ды з падарожным ветрам!..*

*Хоць тут пасяліся, завякуй,*
*бы ў залевах прахалодны камень,*
*як душу крынічна апякуць*
*маладзіцы сінімі вачамі.*

*Вокал ціша.*
*Прыпяцкая плынь*
*зносіць час у акіян Сусвету.*
*Вакаёмы мройныя акінь —*
*ходзяць здані*
*перабытых летаў.*

*І як сок з гаркавінкай калін,*
*закіпае водсвітак барвовы.*
*І звіняць раскатна салаўі,*
*што званы саборныя,*
*з дубровы.*

*Сам Кірыла Тураўскі*
*здаля*
*волатам ступае самавіта.*
*...Тураў... Тураў —*
*родная зямля,*
*як вятрамі,*
*славай апавіта!*

**Сяргей ПАНІЗНІК**

## Келля роздуму Кірылы Тураўскага

*— Калі ўмудрыцеся вы, людзі?*
*Каго да плачу прызаву?*
*Спадзе на вашу галаву*
*аслупянелае няўклюддзе.*
*Жабрацкае тапчыце слова,*
*спаліце вы агонь святы:*
*узыдзе сонца — і тады*
*ратуе слабкага і злога.*
*Няма дабрэй, чым кніжын розум,*
*бо ён — што промні на зямлю,*
*якія выдалі тлю —*
*былінцы веснавой пагрозу.*
*Не знае стомы апантаны.*
*Задума абганяе дні...*
*Нявольнік боскай цішыні,*
*я — вольны, ў келлю ўмураваны.*
*Бо Слова — Тур. Яго паход*
*Вялікаднем спаўе народ.*

**Уладзімір МАЗГО**

## Тураўская навальніца

*Рыкаў у небе гром.*
*Жагнаў маланкай`далі.*
*Мы тураўскі паром*
*Паспешна пакідалі.*

*Бадай, з нябёс вада*
*Пачула рог турыны:*
*Дождж лінуў як з вядра*
*На нівы, азярыны.*

*Працёк пасля і дах.*
*Дрыжыць зары каліна.*
*Плюскоча па слядах*
*Вада у каляінах.*

*Знямогся кагадзе*
*Спякотны потны прыпар.*
*Смяялася вадзе*
*Блакітнавока Прыпяць.*

*Жагнала навальніца*
*Мясціны дарагія,*
*Дзе мы жадалі зліцца*
*З абуджанай стыхіяй...*

**Павел ШРУБ**

## Тураў

*Высах,*
*няма кірмашовага віру,*
*Хоць (вочы заплюшчыш)*
*які быў цуд —*
*Габрэйка: "У "кугцы"*
*вашай ні жыру!.."*
*І бабка: "Тлустая, важыць мо пуд..."*

*А побач гадае пра лёс цыганка,*
*Адно толькі ручку пазалаці...*
*Знік кашалёк, знікла некуды п'янка,*
*Гаруе мужык: "Як да жонкі зайсці?"*

*...Габрэяў няма —*
*птушка ў крамах прапала,*
*Хіба толькі брыдкае качаня.*
*Цыганка даўно*
*тут гадаць перастала:*
*Нішчымная стала ва ўсіх*
*Даланя...*

*У Тураве сённяшнім*
*ціха-ціха.*
*І ўсё ж я не веру,*
*Што гэта канец,*
*Бо вучаць стагоддзі:*
*ліха — не ліха,*
*Покуль апошні не сцэз*
*Туравец...*

**Віктар ШНІП**

## Балада Турава

**На Беларусі Бог жыве.**
**Уладзімір Караткевіч**

*Турыны рог у Тураве гучаў.*
*І праз туман,*
*як праз стагоддзі, з траў*
*Зноў усплывала сонца, як шалом,*
*Што, як крывёй,*
*напоўнены святлом.*
*І пачынаўся дзень, нібы вайна,*
*І ноч, нібы разбітая сцяна,*
*Нібы арда, гублялася ў траве.*
*І ты ўжо ведаў —*
*Беларусь жыве*
*І будзе, як святлынь у Храме,*
*жыць,*
*Бо рог турыны*
*ў Тураве гучыць*
*І жывіць беларускую душу,*
*І мы, нібы трава*
*пасля дажджу,*
*Да сонца цягнемся*
*што як шалом,*
*Які напоўнены святым він[о]м,*
*Якое піць, нібы сябе паліць*
*За гэты свет,*
*дзе нам турыны рог*
*Гучыць над пыльнай*
*вечнасцю дарог,*
*Каб ты і я маглі*
*свой край любіць,*
*Як любіць Беларусь наш Бог...*



***

"Хаця аб жыцці і дзейнасці свято-га Кірылы Тураўскага і засталося надзвычай мала канкрэтных звестак, затое да нашага часу захавалася вельмі шмат літаратурных твораў самога свяціцеля, можна сказаць, унікальна многа для аўтара XII ст., а гэта сведчыць як аб велізарным аб'ёме спадчыны, так і аб папулярнасці "рускага Залатавуста".

**Аляксей Мельнікаў**

***

"Творы Кірылы Тураўскага склалі залаты фонд старажытна-рускай літаратуры і на працягу стагоддзяў карысталіся вялікай папулярнасцю на землях усходніх славян, перапісваліся да XIX ст."

**Вячаслаў Чамярыцкі**

***

"У рамках свайго часу, у рамках сярэднявечнага канона ў творах Кірылы Тураўскага прабівалася ўжо такое, што запраграмоўвала ў XX стагоддзі Янку Купалу ці Уладзіміра Караткевіча. На ўзровень народнасці Кірылу Тураўскага ўздымала яго звяртанне як да роднай прыроды, так і да людзей з народа, да вобразаў ратая, сейбіта, рыбака."

**Алег Лойка**

***

"Творы Тураўскага і сёння захапляюць вобразнасцю і пранікнёнасцю, простасцю і шчырым клопатам пра духоўную дасканаласць суайчыннікаў."

**Уладзімір Арлоў**

***

"На аснове дасканалага вывучэння Біблії, раннехрысціянскай літаратуры, антычнай паэтыкі і рыторыкі, візантыйскай рэлігійнай паэзіі і традыцыі айчыннай культуры Кірыла Тураўскі выпрацаваў самабытны стыль урачыстага царкоўнага красамоўства. Яго творчасць — найвышэйшае дасягненне старажытнай усходнеславянскай літаратуры ў жанры аратарскай прозы, якая пазней заняпала і зноў адрадзілася ў творчасці беларускіх пісьменнікаў-палемістаў XVI ст. і Сімяона Полацкага."

**Уладзімір КОНАН**

***

"Мова твораў Кірылы Тураўскага — тыпова старажытнарускай разнавіднасці, узор узнёслага, класічнага кніжна-славянскага стылю."

**Ігар ЯРОМІН**

# Молитва святаго Кирила, глаголема по вся дни



Святы Кірыла Тураўскі

Владыко Господи Иисусе Христе Боже нашь, приклони ми ухо Твое, и услыши мя, припадающе, имени Твоему и всем и всячески. Воими ми, возопию къ державе Твоей и къ власти и силе, молю Ти ся и припадаю, Господи Боже мой, даром божественым внимая мне, и услыши моего худаго моления (имярек), молящаго Ти ся о всех и за вся. Помяни, Господи, вся, плавающая по воде, и в путь ходящая, и тружающаяся. Помяни, Господи, вдовицы и сироты, и странствующая, и алчющая, и жажущая. Помяни, Господи, сущих в темницах, и во узах, и въ бедах, и въ плачех, и въ болезнех тяжких одержимых. Великая Твоя милость да обыдет их, яко человеколюбец. Помяни, Господи, мучащихся, и в тесноте, и в бедах, и в напастех стражущих. Излей каплю сладости на сердца их от святаго Твоего и животворящаго Духа, да наслаждаеми и насыщаеми славят Твою благостыню. О Владыко Господи, услыши мя ныне, недостойнаго раба Твоего (имярек), со архимандриты и игумены, ереи и дияконы и четцы и всякого церковнаго чина, ихже постави пастухи словеснаго Ти стада. Приими, Господи, приносимыя Ти от них молитвы за мир. Помяни, Господи, правоверныя цари и князи, Помяни, Господи, и благовернаго великаго князя нашего (имярек), подай же ему, Господи, здравие телеси и души спасение, и державу его миром огради, и на супостаты его укрепи, люди умножи, землю угобзи; даруй ему, Господи, в сердцы разум благ о церквах Твоих и о священницех и о мнишеском чину. Помяни, Господи, отца нашего игумена (имярек), архимандрита, строителя и стража душ наших; подай же ему, Господи, здравие и спасение, отпущение грехом, и управление в вечную жизнь; молитвами его очисти, Господи, согрешения. Помяни, Господи, всю, еже о Христе, отець и братию нашу сию (имярек), собравшихся во святую обитель сию, имени Твоего ради. Исполни, Господи, прошения их, яже ко спасению, и всех нас помяни во Царствии Небеснем, и причастники сотвори вечныя радости. Помяни, Господи, всякого инока и иконома, и служащая мнихи, и всякого черноризца и черноризиц, иже в монастырех и во особных местех. Молитвами их очисти, Господи, и мои согрешения. Помяни, Господи, братию мою и сестры моя и все сродники моя, яже Сам веси и имена их (зде поминай еликих хощеши, имярек). Помяни, Господи, тех, иже колиждо мне добро сотвориша, или рекоша, или помыслиша {...}. Помяни, Господи, всяко православное християнство, уноты и старца, вдовица и сироты, рабы, свободныя, богатыя и нищая, и сущая во оклеветании, озлобленныя и томимыя по гневу. Еще молю Ти ся, о Владыко Пресвятый, избави, Господи, град сей и страну сию от всякаго зла: от огня, и потопа, и напрасныя смерти, от глада, от усобныя рати, и от нахождения иноплеменник, и пленныя восвояси возврати. Помяни, Господи, яко благ и человеколюбец Бог, по множеству щедрот Твоих, и мене окаяннаго недостойнаго раба Твоего (имярек), и отпусти ми, Господи, всяко прегрешение, волное и неволное. Очисти ми, Господи, душу и тело от всяких скверных, и не мерзко Ти буди воздыхание убогая ми душа, *безотчьствующа*[1] пред Тобою. Еще молю Тя, о Владыко пресвятый, избави, Господи, ограду сию монастырскую, в нейже пребываем, от всякого зла: от огня и потопа, от глада и от напрасныя смерти, и от усобныя рати. И подай же нам, Господи, всяко прошение, душевное и телесное, и не отврати лица Твоего от моления моего, ни посрами же *единаго нас*[2], но вся ны введи во Царство Небесное. Помяни, Господи, преставльшаяся рабы Твоя: вселенския патриархи, святейшия митрополиты, благочестивыя цари и царицы, благоверныя князи, и священноархиепископы и епископы, благоверныя князи и княгини, и священноиноки, и иноки и инокиня, и вся православныя христианы. Помяни, Господи, отца моего, и матерь, и братию, и сестры и вся сродники, мужеска полу и женска (зде поминай умерших, имярек). Помяни, Господи, всякаго племени християнскаго роду, и вся, елика веровавша в Тя, Иисуса Христа Сына Божия. Покой я, Господи, идеже вси праведнии почивают, и остави им, Господи, всяко прегрешение, волное и неволное, яже согрешиша на земли сей въ ведении и не въ ведении, во всем животе своем, делом и словом и помышлением, и облегчи тяготу раб Твоих, не приемших *Святых Таин Твоих*[3]. О Владыко Пресвятый, приими молитву мою, недостойнаго раба Твоего (имярек), молящаго Ти ся о всех и за вся. И даждь ми, Господи, до последняго издыхания Тебе предстоятии, и просити отпущения грехом. И во страшный он день, пред страшным престолом Твоим, одесную Тебе стати сподоби, молитвами пресвятыя Твоея Матере, Владычицы нашея Богородицы, силою честнаго и животворящаго Креста, и святых небесных сил, Михаила и Гавриила, и святаго Крестителя Твоего Предтечи Иоанна, и святых верховных апостол Петра и Павла, и обоюнадесяте, и святаго собора седмьдесять апостол, и всех святых пророк, и святых святитель: Василия Великаго, Григория Богослова, Иоанна Златоустаго, и святаго великаго Николы чюдотворца и святых отец триста и осмьнадесять, и святых преподобных отець наших: Антония, Савы, Еуфимия, Феодосия Иерусалимскаго, и преподобнаго отца Ануфрия, и иже во святых преподобнаго отца нашего Феодосия Печерскаго, всея Руси светилника, иже обещавшагося за нас слово отдати на страшнем Твоем суде, нанемже, Господи, и мене неосужена сохрани, в мире управи жизнь мою, молитвами его и всех святых, иже от века Тебе благоугодивших, всегда и ныне и присно и во веки веком, аминь.

(Та же по обычаю отпуст).

Спаси, Господи, и помилуй ненавидящих и обидящих мя, и враждующих ми, и творящих ми пакость, и поношающих ми, такоже и оклеветающих мя: да никтоже, никакоже от них мене ради, нечистаго, зло некако пострадает ни в нынешнем веце, ни в будущем. Но очисти их милостию Своею, и покры их благодатию Своею, благый. (Метание).

Помилуй, Господи, и спаси милостию Своею и мене, грешнаго и недостойнаго, и еще, по Твоему благоволению, в жизни сей живущаго. Прости ми вся грехи моя, и спаси мя на всяком месте: или в пути ходящаго, или по водам плавающаго, или где пребывающа, избавляя мя от насилия вражия и от *того*[4] находящися на мя, уязвляемых стрел греховных, и соблюдая мя от всякия противныя брани, во всяко время, в нощи же и во дне, от напрасныя смерти и бед, и скорбий, недуг и болезний тяжких. И безмятежен живот, и покаянию время, и исход мирен подай же ми.

*Твор друкуецца на адаптаванай царкоўнаславянскай мове.*

[1] сляпая (у супрацьлегласць, як можна меркаваць, «многоочитым херувимам»)

[2] ніводнага з нас

[3] прычасці

[4] г.зн.ворага-д'ябла



Старонкі з кнігі "Штодзённыя малітвы" Кірылы Тураўскага. Вільня. Пачатак XVII ст.



***Напярэдадні свята ў Тураве прайшло пашыранае пасяджэнне Рэспубліканскага аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенні Дня беларускага пісьменства на чале з яго старшынёй — намеснікам старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Уладзімірам ДРАЖЫНЫМ. Ён зазначыў, што правядзенне гэтага свята ў Тураве з'явіцца моцным імпульсам да развіцця гістарычнай зоны ў горадзе і адраджэння ў гэтым краі беларускай гістарычнай спадчыны.***

# Па прыступках стагоддзяў

Тураўскі краязнаўчы музей, бадай, адзіны сапраўдны сведка ўсёй гісторыі горада, які авеяны легендамі і паданнямі, горада, у якім заснулі стагоддзі. Як і сам Тураў, музей мае сваю адметную гісторыю. Ён быў створаны ў 1927 г. А першым яго дырэктарам стаў настаўнік геаграфіі Максім Бруй. Менавіта ён разам з тураўскім навукоўцам Парфёнам Шчакатовічам правёў вялікую працу па вывучэнні роднага краю. Імі было сабрана дзве тысячы экспанатаў. На вялікі жаль, яны захоўваліся толькі да вайны, у гады якой амаль усе гістарычныя каштоўнасці скралі...

Пра сляды тых часоў і падзей сёння ў музеі паведамляюць экспанаты. Краязнаўчы музей аднавіў сваю працу ў 1950 г. Менавіта тады ж наноў пачалі збірацца экспанаты, якія зараз можна пабачыць у экспазіцыі. Сапраўды, перакрочыўшы парог, нібыта дакранаешся да тысячагадовай гісторыі аднаго са старэйшых гарадоў Беларусі. Тут можна пабачыць кераміку XII — XIII стагоддзяў, калекцыі курыльных люлек, касцяныя голкі і бранзалеты... У аддзеле прыроды экспануецца флора і фауна Тураўшчыны; нашы абаронцы-воіны спрадвеку славіліся і як лоўкія паляўнічыя, умелыя рыбакі. Нібыта жывыя, спыніліся на вечнай дарозе воўк, лісіца, дзік, застыглі ў лёце птушкі.

Багата прадстаўлена ў залах і матэрыяльная культура палешукоў да перавароту 1917 г.; экспануюцца этнаграфічныя рэчы: драўляная барана, ложак, ступа і таўкач, інш. Здзіўляюць прыгажосцю і тонкасцю працы плеценыя вырабы з саломы, макет курнай хаты селяніна.

Ёсць традыцыйныя раздзелы, у якіх паказаны рэвалюцыя, грамадзянская вайна, калектывізацыя, вайна 1941—1945 гг., аднаўленчы перыяд.

А ў першай зале музея стаіць невялікі помнік, на якім нібыта выхаплены з гісторыі распаўсюджаны ў старажытнасці дзікі бык — тур і наш продак-воін каля яго. Выканаў гэты экспанат студэнт 5-га курса Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Аляксандр Бруй.

Пра з'яўленне назвы Тураў ходзяць розныя легенды, але асноўнымі лічацца чатыры. Першая з іх расказвае пра тое, як з-за мора прыйшоў князь Тур. Другая сведчыць, што Тураў атрымаў сваю назву ад слова "тура" (вежа). Справа ў тым, што ўсе старажытныя гарады былі абнесеныя абарончай сцяной, а з усіх чатырох бакоў стаялі глядзельныя вежы — туры. Трэцяя легенда расказвае, што Тураў атрымаў сваю назву ад ракі Тураўлянкі. Хутчэй за ўсё горад бярэ назву ад ракі, на якой стаіць. Чацвёртая паведамляе, што назва Тураў узнікла ад дзікай жывёлы тура. У старажытнасці іх было шмат, і тураўскія князі выязджалі на паляванне, седзячы вярхом на коні. Таму вёска, якая знаходзілася паблізу, атрымала назву Буйразь (разіць буя).

Можна пабачыць у музеі і макет замкавай гары, якая падзяляецца на дзядзінец і акольны горад. Паводле слоў фондаахоўніка краязнаўчага музея Турава Валянціны Карась, у акольным горадзе, дзе жылі майстры, падчас раскопак былі знойдзены рэшткі храма XII стагоддзя. "Падобнага архітэктурнага збудавання на тэрыторыі былога Савецкага Саюза вучоныя не знаходзілі. Яны нават прыйшлі да высновы, што ў Тураве існавала свая школа дойлідства", — падкрэсліла яна.

Дарэчы, пра круглую вежу, якая стаяла на дзядзінцы, ходзяць свае легенды. Адна з іх распавядае пра тое, што маецца падземны ход, які звязвае... Тураў з Кіевам. І нібыта ёсць там схаваная залатая царская выязная карэта. Праўда гэта ці не, невядома, паколькі круглую вежу яшчэ ніхто не капаў. Паводле другой легенды, у замкавай гары знайшлі жалезныя вароты. Калі іх адчынілі, убачылі іншыя вароты, на якіх знаходзіўся пудовы замок. А за варотамі стаяў салдат ва ўсім абмундзіраванні. "Калі я пачула гэту легенду, — працягвае Валянціна Міронаўна, — я адразу падумала, што жывы чалавек ніяк не можа там знаходзіцца. Магчыма, размова ідзе пра скульптуру. Тады пытанне: што ці каго ён там абараняе?".

...Калі ж людзі прыйшлі да свяшчэнніка і папрасілі яго адчыніць дзверы, ён сказаў, што зараз вясна і ідзе пасяўная, а калі адчыніць дзверы, наступіць вялікая смяротнасць сярод людзей. Ён параіў зачыніць дзверы і забыцца пра іх існаванне. "Мой бацька, калі хадзіў у царкоўнапрыходскую школу, расказваў, як аднойчы мужык араў сваю палоску зямлі каля замкавай гары і выпадкова знайшоў цэглу і пачаў разбіраць яе, — паведаміла Валянціна Карась. — Пасля з'явіўся ход у гару. Тады быў перапынак у царкоўнапрыходскай школе і тры самыя адважныя хлопцы пайшлі ў гару, а праз некаторы час вынеслі адтуль... каваны куфар на замку. Яго аддалі свяшчэнніку. А вось што было ў куфры, па сённяшні дзень ніхто не ведае.



Свяшчэннік сказаў засыпаць цэглу зямлёй і забыцца пра існаванне гэтай знаходкі. А мужыку, які знайшоў яе, далі надзел царкоўнай, самай урадлівай зямлі".

"Гісторыя — гісторыяй, але ў музеі прадстаўлены і тыя, хто — гонар нашага славутага раёна, — працягвае Валянціна Карась. — Пераважна гэта людзі, якія навучаліся ў школе Турава і дасягнулі значных поспехаў у прафесіі, вяршынь навукі. Сярод іх прафесары, крытыкі, пісьменнікі, настаўнікі, Героі Сацыялістычнай працы і іншыя. Мы б хацелі сабраць іх усіх у нашых сценах. Таму, карыстаючыся выпадкам, звяртаюся праз вашу газету да гэтых людзей з заклікам даслаць нам свае ўспаміны з фотаздымкамі розных часоў. Мы будзем вельмі ўдзячныя, паколькі плануем перабудаваць музей і зрабіць асобную залу пад назвай "Гонар Турава", дзе будуць прадстаўлены сыны і дочкі, якіх выхавала тураўская зямля. Гэта наша мэта. Да прыкладу, мы ведаем, што ў Пагосце маецца сем кандыдатаў навук, але ж у музеі няма ніякіх звестак пра іх".

З кожнай новай залай музея нібыта ўздымаешся па прыступках стагоддзяў, становішся сведкам розных момантаў у гісторыі горада.

Некаторы час краязнаўчы музей быў філіялам Гомельскага і Пінскага музеяў, але зараз з'яўляецца самастойным. Раней музей быў бясплатны, а сёння за ўваход трэба плаціць. Аднак колькасць наведвальнікаў не змяншаецца. Валянціна Міронаўна ладзіць экскурсіі для турыстаў з Гомеля, Мінска, Мазыра, Пінска, Санкт-Пецярбурга, Чыты, іншых гарадоў. І прываблівають іх увагу не толькі экспанаты, прадстаўленыя ў музеі, а гісторыя і загадкі старажытнага Турава, разгадаць якія не па сілах нават яго жыхарам...

**Ружана ДЗЯЛЕНДЗІК**

**— Вой, як файна! — прыяцелька мая ажно ў ладкі паляскала, калі даведалася, дзе пройдзе сёлета Дзень беларускага пісьменства.**

**— Хіба вы бывалі ў Тураве! — я здзівілася, бо ніколі ад яе, заўзятай вандроўніцы ды аматаркі пахваліцца нават колішнімі падарожнымі ўражаннямі, не чула расповедаў пра гэтае мястэчка.**

**— Не давялося пабываць... Але — бачыла! Няўжо я не расказвала! Гісторыя даўняя. І не гісторыя нават. Эпізод. Ездзіла разам з тэлевізійнай групай на Палессе: здымалі сюжэт пра дзеда Талаша. Завіталі да ягонай хаты, дзе ствараўся дом-музей, паблукалі па наваколлі: краявіды — слоў няма, якая прыгажосць! Гэта раён Петрыкава. Дарэчы, і ў райцэнтр заязджалі. Спадабалася і там. Адна Прыпяць — ужо дзіва! На зваротным шляху глядзела ў акенца, прыродай цешылася, і раптам — абрысы горада, купал храма: як прывід нейкі. Прамільгнуў горад, быццам нерэальны. А сам вобраз, казачны вобраз, уразіў па-сапраўднаму, запомніўся. Вось такім я ўбачыла Тураў...**

Цяпер і я спрабую ўбачыць-уявіць гэты палескі міраж. Тураў, бываць у якім не даводзілася...

# Палескі міраж, або Азбука ўяўлення




## А

Горад-міраж? Горад з тысячагадовай гісторыяй! Археолагі даследавалі яго старажытныя руіны. Пранікалі ў таямніцы нетраў легендарнай зямлі. Знаходзілі рэшткі паганскага капішча і свінцовыя абразкі Багародзіцы, каменныя баявыя сякеры і жалезныя сярпы, касцяныя шахматныя фігуркі ды гліняныя люлькі для курцоў, прасніцы, бронзавы посуд, падсвечнікі, керамічныя вырабы, скураны абутак, ювелірныя ўпрыгажэнні. Кавалкі старажытнай цэглы, абломкі шыбаў і шкляного посуду, тыглі для плаўкі каляровых металаў — час пакінуў гэтыя ды іншыя сведчанні значнага для сваіх часоў узроўню гарадской цывілізацыі, развіцця рамёстваў, актыўнасці гандлю. А галоўным сведчаннем высокай духоўнай і пісьмовай культуры сталася, як вядома, дзейнасць Кірылы Тураўскага, існаванне Тураўскага евангелля — аднаго з найбольш ранніх помнікаў усходнеславянскага пісьменства.

## Б

Многія каштоўныя знаходкі, у тым ліку й рукапіс 1521 года "Мінея на сакавік і красавік", уваходзяць сёння ў экспазіцыю Тураўскага краязнаўчага музея. (Ён заснаваны, між іншым, у 1927 годзе і пачынаў працаваць як музей школьны). Ёсць тут, апроч раздзелаў, прысвечаных этнаграфіі, прыродзе, побытавай культуры, розным перыядам гісторыі, падборка сучасных каштоўнасцяў: карціны мастакоў — удзельнікаў Тураўскага пленэру. Але нідзе вы не знойдзеце старажытны герб гэтага горада! У адрозненне ад многіх-многіх іншых, нават маладзейшых нашых гарадоў ды мястэчак, часам ператорваных воляю гісторыі ў вёскі, — Тураў свайго галоўнага геральдычнага знака не займеў. Хаця меў самавітых уладароў: Свідрыгайлаў, Глінскіх, Астрожскіх, Сапегаў, Патоцкіх...



*Пячатка XI ст. (свінец, ліццё) належала князю тураўскаму, вялікаму князю кіеўскаму Усеваладу Яраславічу, сыну Яраслава Мудрага, бацьку Уладзіміра Манамаха.*



*Пагодліва на Прыпяці!*

## В

Колішні цэнтр княства, наўкруг якога пачыналі свой радавод паселішчы беларускіх плямёнаў — ад Буга да Дняпра, ад Прыпяці да Случы. Зямля дрыгавічоў, валадарства легендарнага Тура... Сёлета ў філіяле Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі — Гасцёўні Галубка — працавала унікальная выстаўка. Яна прысвячалася старадаўнім беларускім картам — ад XVI да XIX стагоддзяў, у тым ліку так званым радзівілаўскім. Сярод рарытэтаў мо асабліва заўважнай была частка атласа, што друкаваўся з 1670 па 1707 год у Амстэрдаме выдатным галандскім гравёрам і картографам Фрэдэрыкам ды Вітам: на ёй між назваў Minskensis, Mscislauiensis, Rzeczyca, Rohaczow, Witepskensis, Braslawien знойдзеш і Turow...

На карце сённяшняй Беларусі, дзе дробнымі рысачкамі густа пазначана тэрыторыя палескіх балот, назва "Тураў" нібы ўзвышаецца на незаштрыхаваным лапіку. Міражовы мацярык, цытадэль на беразе... спрадвечных таямніц?



*Канстанцін і Алена. Абраз XI ст., матэрыялам для якога была наша звычайная гліна...*



Курыльныя люлькі ды чубукі, якія траплялі на Беларусь у пазамінулым стагоддзі з Заходняй Еўропы.

## Г

Горад-міраж наўзбоч шляхоў на захад, не здабыў ён та-



Ці не першым беларускім букваром лічыцца гэты самшытавы грэбень XII ст. з пазначанай на ім кірылічнай азбукай.

кую рэпутацыю еўрапейскага культурнага асяродка, як больш ці менш вядомыя сядзібы муз: Нясвіж і Слонім, Слуцк і Шклоў, Гародня, Пінск ды Бярэсце, Полацк, Заслаўе, Залессе... Аднак быў злучаны з імі — агульнай гісторыяй часоў Вялікага княства Літоўскага. У Высокім 240 гадоў таму — юбілей! — існавала капэла янычарскай харугвы Польнай Булавы ВКЛ, а ў палескім Пінску — капэлы конных палкоў Грабоўскага ды Агінскага (1774, 1766). І музыканты былі з такімі тыпова нашымі прозвішчамі: барабаншчыкі Вінцэнт Пётух, Рыгор Бяляўскі, Пётр Марун, габаіст Бенедыкт Казлоўскі, выканаўца на талерках Ежы Карповіч, сурмач Антон Федаровіч, памочнік капельмайстра Пётр Шнуроўскі... Усе — люду тутэйшага.

## Д

Стагоддзе дваццатае — свае знакамітасці, спакроўленыя з найбагатым фальклорам Беларускага Палесся. Дарэчы, этнамузыколаг Зінаіда Мажэйка сабрала яго ўзоры для пласцінкі, выданне якой у 1982 годзе ажыццявіла ЮНЕСКА...

Гэта ж толькі на паперы мяжуюць з Жыткавіцкім Лельчыцкі раён ды Мазыршчына. Іх жыццёвыя, гістарычныя, культурныя карані спляліся ў глыбінях часу і далі такія дзівосныя парасткі! Нездарма выдатны даследчык беларускага народнага адзення прафесар Міхась Раманюк (ураджэнец Палесся, Брагінскага раёна) вылучыў турава-мазырскі строй, уласцівы жыхарам як жыткавіцкіх, так і лельчыцкіх земляў.

Спеўную вёску Тонеж праславілі саліст-самародак Сцяпан Дубейка і такая волатаўская індывідуальнасць у акадэмічнай (!) народнапесеннай музыцы, як прафесар Міхась Дрынеўскі. Самабытны музыка-інструменталіст Георгій Дулуб і знаны маэстра Міхал Фінберг — дзеці Мазыршчыны. А ў гісторыі культуры самога Турава — народны хор, з часу заснавання якога мінула без году 60, і прызнаны ў свой час далёка за межамі Беларусі народны ансамбль танца "Прыпяць", створаны нешараговай асобай — Міколам Котавым — у 1964-м, сорак гадоў таму.



Шматвяковыя скарбы зямлі...

## Е

Як Вялікасць Прыпяць злучае Тураў з Мазыром ды Петрыкавам, а сухапутная дарога — з Жыткавічамі, Давыд-Гарадком ды Лельчыцамі... Хто ведае, колькі разоў прычальваў да Тураўскага прыстанка няўрымслівы дзядзька Генадзь, фалькларыст і хормайстар Цітовіч, выпраўляючыся ў сваю традыцыйную "вандроўку ў лодцы" — па песні, да людзей? Ці выдатны мультыінструменталіст Уладзімір Гром, які на базе "Крупіцкіх музыкаў" стварыў своеадметную лабараторыю беларускага народнага інструментальнага і песеннага мастацтва ўсіх рэгіёнаў краіны! Гэта ён шэсць гадоў таму выпусціў цудоўны рэпертуарны зборнік у двух сшытках — для фальклорных калектываў, з найгрышамі ды песнямі розных этнічных рэгіёнаў Беларусі. Гомельшчына тут, прынамсі, прадстаўлена "Чэрніцкімі найгрышамі" — укладальнік запісаў гэты твор ад вясковага музыкі ў вёсцы Чэрнічы, што на Жыткаўшчыне.

Сам У.Гром каментаваў так: "Вёска Чэрнічы існуе з часоў Турава-Пінскага княства, раней там жылі манахі ("чэрнь"), адсюль і назва паселішча. Дзе ў вёсцы было шмат музыкантаў, заўсёды існавала канкурэнцыя, кожны імкнуўся паказаць свае магчымасці. Ад гэтага — тэхнічныя прыёмы, разнастайнасць тэм..."



"Балота. Палессе" (1890 г.). Гэтае жывапіснае палатно выдатнага рускага мастака-перасоўніка І.Шышкіна — у ліку самых каштоўных набыткаў Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.




Мелодыя Жыткаўшчыны...



Так апранаўся тутэйшы люд. Прафесар-першапраходца М.Раманюк, які ажыццявіў мастацтвазнаўча-этнаграфічнае раянаванне беларускага нацыянальнага касцюма і адпаведным чынам ілюстраваў карту гісторыка-этнаграфічных рэгіёнаў Беларусі, пісаў пра турава-мазырскі строй: "Бытаваў у 19 — сярэдзіне 20 ст. пераважна ў Жыткавіцкім, Ельскім, Лельчыцкім, Мазырскім, Петрыкаўскім і Столінскім р-нах. Яму ўласцівы разнастайнасць форм адзення, паліхромнасць і маляўнічасць вышыўкі гладдзю..."

## Ж

Прыпяць неаднойчы паказвала шлях да фальклору Ігару Лучанку, Уладзіміру Мулявіну, Уладзіміру Будніку... Буднік, дарэчы, ураджэнец Жыткавічаў, прысвяціў Тураву сваю новую песню на вершы Паўла Шруба. Наогул, ці не ўсіх беларускіх кампазітараў, незалежна ад месца іх нараджэння, у розныя часы натхняла Палессе: сведчанне таго — апрацоўкі рэгіянальнага фальклору і праграмныя аркестравыя, камерныя інструментальныя, вакальныя творы, дзе ў саміх назвах адлюстравана характэрная тапаніміка. Ёсць яны ў віцябляніна Анатоля Багатырова, бабруйчаніна Уладзіміра Алоўнікава, ураджэнца Смаленшчыны Яўгена Глебава, гамяльчанаў Уладзіміра Дамарацкага, Аляксандра Гулая, мінчукоў Ігара Лучанка, Уладзіміра Кур'яна, Аляксандра Смольскага, узгадаванага ў Глуску Валерыя Іванова. А ў Пятай сімфоніі Андрэя Мдзівані "Памяць зямлі" адна з частак названа "Тур".

## З

Палескі міраж?.. У асяроддзі самабытнай Гомельшчыны, сэрцам якой зробіцца прыстанак вялікага беларускага свята, старажытны Тураў набывае рэальныя абрысы і новыя грані аблічча. Ён годна пачувае сябе ў ролі горада: гэта званне вернута яму зусім нядаўна, у пачатку жніўня 2004-га.

**С.БЕРАСЦЕНЬ**



# "Сын" крыжоў – новы цуд свету!

Могілкі Барыса і Глеба ў Тураве сталі месцам паломніцтва праваслаўных хрысціян. З усіх куткоў Беларусі і нават іншых дзяржаў сюды ідуць людзі, каб пакланіцца крыжу, які... расце з-пад зямлі. "Гэта адзін з цудаў свету, — расказвае фондаахоўнік мясцовага краязнаўчага музея Валянціна Карась. — Што ён нясе, добрую радасць ці вялікую бяду, нам не дадзена ведаць. Мы пазнаем гэта толькі тады, калі ён падымецца ва ўвесь рост". Да якіх памераў будзе расці крыж, не ведае ніхто.

Тое, што на могілках расце каменны крыж, мясцовыя жыхары заўважылі 6 — 7 гадоў таму, дакладней, не сам крыж, а камень. Спачатку на яго ніхто не звяртаў увагі, пакуль не з'явілася так званая перакладзіна (крылы крыжа). Легендаў наконт таго, чаму ён расце, шмат. Мяркуюць, што на пачатку 30-х гадоў мінулага стагоддзя падчас вялікай паводкі адзін з мясцовых жыхароў дабіраўся на лодцы да Барысаглебскіх могілак і ўбачыў каменны крыж, які плыў па вадзе. Ведаючы пра адносіны новай улады да рэлігіі, ён нікому нічога не сказаў і закапаў святыню. Існуе думка, што менавіта гэты крыж і выходзіць з-пад зямлі. Аднак самая праўдападобная легенда звязана з перадсмяротнымі словамі Кірылы Тураўскага: "Вярнуся, калі прыйдзе час...". Мясцовыя жыхары лічаць, што святы з Турава вяртаецца.

Зараз левае і правае плечы крыжа фактычна падняліся над зямлёй. Можна заўважыць, што ён нахілены налева, нібыта завальваецца на бок, і што ўнізе ён больш тоўсты, чым уверсе. Словам, расце нераўнамерна. Валянціна Міронаўна штодзень прыводзіць да крыжа групы турыстаў і сцвярджае, што крыж не проста выходзіць з-пад зямлі, а расце. На працягу двух гадоў яна замярала яго. "Калі б крыж за гэты час рос толькі ў вышыню — на 1,9 сантыметра, я б падумала, што на гэтым месцы нехта пахаваны, труна струхлела, з таго асядае зямля і атрымліваецца, што крыж расце, — прызнаецца жанчына. — Але ён расце і ў шырыню! Прычым, раўнютка на столькі ж: на 1,9 сантыметра".

Старажылы расказваюць, што цудоўны крыж вылучае энергію — верхняя яго частка заўсёды цёплая, нават у... лютаўскія маразы. Калі трымаць далоні на адлегласці 1—2 сантыметры ад пярэдняй і задняй частак крыжа, можна адчуць цяпло, ці лёгкае паколванне, або нават, як сцвярджаюць... пякельны холад. Жыхары Турава лічаць, што "цуд" выдатна адчувае энергетыку чалавека, як станоўчую, так і адмоўную. І з таго не паказваецца рабаўнікам. Валянціна Карась узгадвае выпадак, калі да яе аднойчы прыехаў чалавек, сказаў, што ён журналіст і папрасіў паказаць крыж. Жанчына абышла з ім могілкі некалькі разоў, але крыж... не знайшла. Аднак правяла ж тут не адну экскурсію. А той госць аказаўся зусім і не журналістам.

Лічыцца, што крыж — гэта "сын" вялікіх тураўскіх крыжоў, узрост якіх каля тысячы гадоў. Здаецца, ён нават выраблены з аднаго і таго ж матэрыялу. Існуе старадаўняе паданне, што вялікія крыжы прыплылі ў Тураў з Кіева па Дняпры і Прыпяці, да таго ж — супраць цячэння — адразу пасля хрышчэння Русі, і спыніліся каля гарадской прыстані. Калі людзі ўбачылі іх і вынеслі на бераг, вада ў рацэ зрабілася колеру крыві. Крыжы аднеслі ў царкву. Аднак праз сотні гадоў высветлілася, што адзін з іх — іхні "сын" згубіўся. Казалі, што застаўся ў суседняй вёсцы Пагост. А астатнія два двухметровай вышыні (у народзе іх называюць "маці" і "бацька") сёння знаходзяцца ў Тураўскай царкве ў гонар Усіх Святых.

Аднак нягледзячы на свае маленькія памеры ў параўнанні з "бацькамі", крыж-"сын" нясе станоўчыя эмоцыі, чыстую энергію, добрыя весткі, лечыць нядугі. У гэтым перакананы жыхары Турава. Жанчыны кладуць на яго свае нацельныя крыжыкі і завушніцы, а пасля надзяваюць. Кажуць, дапамагае — нармалізуе артэрыяльны ціск і пазбаўляе ад галаўных боляў. Ужо на працягу трох гадоў прыязджае сюды адна дзяўчына з Пецярбурга, каб пазбавіцца ад захворванняў, і прызнаецца, што з цягам часу ёй сапраўды становіцца лягчэй. Нешта адпаведнае, лёгкае, адчувае і 45-гадовая жыхарка Турава, якая хварэе на астму. Цудоўны крыж паставіў на ногі і рэстаўратара Аляксея з Мінска. Падчас будаўнічых прац хлопец сарваўся з рыштаванняў і не мог хадзіць. Аднак дзякуючы дапамозе ўрачоў і гаючай сіле крыжа, Аляксей зараз самастойна перасоўваецца на калясцы і можа становіцца на ногі, але не на доўгі час.

Людзей, якія чакаюць дапамогі ад святыні, штодзень можна пабачыць на могілках Барыса і Глеба. Сёння знайсці крыж досыць проста: да яго вядзе стаптаная сцежка, якую ўжо пачалі прыбіраць і засцілаць гравіем. Каля крыжа ёсць і невялікі дыван, на які можна апусціцца на калені і памаліцца. У знак падзякі людзі пакідаюць тут кветкі і завязваюць наўкол стужкі.

**Мар'яна АСАВЕЦ**

# Тураў

*Паклон змагару*
*і ратаю*
*Між прыпяцкіх*
*вешчых лясоў!*
*Я быццам нанова гартаю*
*"Аповесць мінулых часоў".*

*І ведаць, і помніць карысна,*
*Як горадам Тураў узнік,*
*Дзе ўчора, і сёння,*
*і прысна*
*Нам свеціцца Госпада Лік.*

*Паходні, мячы ды шаломы*
*Убачыш, ледзь вочы прыжмур.*
*І першы таксама вядомы*
*Буй-князь летапісны*
*— князь Тур.*

*Вось гэтай адвечнай дарогай*
*Дружына прайшла не адна*
*І славу, як з турава рога,*
*Сваю выпівала да дна.*

*Купецкім з-пад Прыпяці*
*суднам*
*Быў рады і захад, і ўсход.*
*Хто край бараніў,*
*дык падсудным*
*Яго не бывае народ!*

*На ўлоннях Струменя*
*і Сцвігі*
*Ваш, прадзеды,*
*голас не сціх:*
*Святыя пісаліся кнігі,*
*Але не палілі вы іх.*

*"Евангелле" сілу дарыла,*
*І быў яшчэ Правечны Кон.*
*Паэт і епіскап Кірыла*
*Малітвай нёс людзям закон.*

*Рака, неспакойная ў буру,*
*Чаротам шуміць,*
*асакой,*
*Здавён пакланяўшыся туру —*
*Як сімвалу волі людской.*

*Ад Прыпяці*
*і да Гарыні,*
*Ад Нёмана*
*і да Дняпра*
*Якія стаялі святыні,*
*І гэтулькі ў сэрцах дабра!*

*Курганне, царква,*
*гарадзішча —*
*Вялікі тут жыў чалавек.*
*Страла, а то куля прасвішча,*
*І новы адкрыецца век.*

*Далёка відны абеліскі,*
*А смутак*
*у кожным двары.*
*Прыціхлі на Прыпяці пліскі,*
*І ў Тураве плачуць муры.*

*Дружыннік гарачай паходняй*
*Не грэе сягоння далонь,*
*Бо тут ад Любові*
*Гасподняй*
*Гарыць дабрадзейны*
*агонь.*

*Быў час гераічна-суровы,*
*Ды міласць*
*на Тураў лягла.*
*Хай нашы бары і дубровы*
*Не чэпяць ні меч,*
*ні страла.*

*Сталіца культуры і веры,*
*З табою*
*і ў нашыя дні*
*Гавораць нябесныя сферы*
*На хвалях святой чысціні.*

*Тут Боская ласка і ціша,*
*Ды сінь, быццам дым,*
*з верасоў.*
*Працягне жыццё*
*і дапіша*
*"Аповесць мінулых часоў".*

**Віктар ГАРДЗЕЙ**



**Беларускае мастацкае слова, стан нацыянальнай літаратуры, праблемы літаратурна-мастацкіх перыядычных выданняў і айчыннага кніжнага друку — у полі асаблівай увагі Міністэрства інфармацыі і яго кіраўніка Уладзіміра РУСАКЕВІЧА.**

# Цэнтр будзе ў бібліятэцы

Бібліятэкі заўсёды лічыліся культурным цэнтрам горада, месцам, дзе можна застацца сам-насам з любімай кнігай, пачытаць для душы, чэрпаць новыя веды ў той ці іншай галіне. Не выключэнне і Тураўская занальная дарослая бібліятэка (філіял № 1). Знаходзіцца яна на другім паверсе "будынка ведаў", як называюць яго ў Тураве, а на першым размешчана дзіцячая бібліятэка. Я паднялася на другі паверх, паколькі там, на мой погляд, можна было знайсці звесткі пра старажытны Тураў.

У чытальнай зале мяне сустрэла адна з супрацоўніц, бібліятэкар Алена Кузьміч. Яна з вялікім задавальненнем дапамагала ў пошуку матэрыялаў і пры гэтым расказвала пра спецыфіку сваёй працы. А паколькі займае яна пасаду зусім нядаўна, спрабуе вывучаць свае абавязкі паступова, нібыта чытаць кнігу. Таму нашу размову я пачала з першай старонкі — уводзінаў.

**— Алена Дзмітрыеўна, колькі выданняў налічваюць фонды бібліятэкі?**

— У нас каля 30-ці тысяч кніг, і штогод 1300 чытачоў наведваюць бібліятэку. Шчыра кажучы, малавата мастацкай літаратуры, у мінулым годзе паступіла толькі 200 экземпляраў. А што тычыцца галіновай літаратуры — эканомікі, экалогіі, паліталогіі — выданні надта старыя і пераважна 1968-га, 1970-га гадоў, але і яны каштоўныя для нас. Для таго, каб дапамагчы студэнтам, нам было б дастаткова літаратуры 1980—1990 гадоў выдання. Тым, хто не хоча працаваць у чытальнай зале на працягу доўгага часу, мы дазваляем карыстацца кнігамі дома. Каштуе такая паслуга 300 рублёў. Хачу сказаць "шчыры дзякуй!" чытачам, якія прыносяць кнігі ў дар у бібліятэку, але гэта, як правіла, мастацкая літаратура і колькасць такіх падарункаў невялікая. Праўда, адна пастаянная наведвальніца бібліятэкі прынесла нам у дар каля... 300 кніг. Мы ведаем, што цікавіць чытача, і маглі б самі набываць выданні. Адна кніжка Кацярыны Паповай, напрыклад, каштуе 4 тысячы рублёў. І гэта вельмі накладна.

**— Як вы лічыце, час змяняе густы чытачоў?**

— Безумоўна. У нас ёсць чытачы вельмі сталага ўзросту. Аднак нягледзячы на гэта, яны адмаўляюцца чытаць старыя кніжкі і патрабуюць новых, больш цікавых выданняў.

**— А якія мерапрыемствы ладзіце разам з супрацоўнікамі?**

— Як правіла, праводзім масавыя мерапрыемствы па краязнаўстве. Ладзім вечарыны "Надзея", дзе размова ідзе пра здаровы лад жыцця. Адзін раз у квартал праводзім пасяджэнне. Сустракаемся з мясцовымі аўтарамі, і часты наш госць — наш зямляк-пісьменнік Уладзімір Гаўрылавіч (аўтар твораў "Сподняя яблыні", "На мяжы", "Глыбокія карані", "Забранае шчасце"). Плануем у хуткім часе правесці мерапрыемствы, дзе будуць гучаць вершы тураўскіх пісьменнікаў пра наш славуты горад.



**— А якой літаратуры вы аддаяце перавагу, як чалавек непасрэдна звязаны з кнігамі?**

— Мне вельмі падабаецца мастацкая літаратура, паколькі яна блізкая да жыцця. Як чалавек душой і сэрцам звязаны з кнігай і чытачом, лічу, што кнігі здольныя вылечыць душу чалавека. І такі працэс адбываецца не толькі праз мастацкую, але і праз краязнаўчую літаратуру, — а тут не толькі навука і лічбы, але і жыццёвы вопыт народа: легенды, паданні і да т.п. Краязнаўчая літаратура не толькі з'яўляецца падмуркам ведаў, але часам дапамагае знайсці выйсце са складаных жыццёвых сітуацый.

Я звярнула ўвагу на асобную залу, дзе размешчаны стэлажы. "На базе нашай бібліятэкі мы збіраемся зрабіць тут цэнтр Кірылы Тураўскага", — патлумачыла Алена Дзмітрыеўна. Там можна пабачыць падборку публікацый з газет, часопісаў і іншыя матэрыялы, якія збіраліся на працягу некалькіх гадоў, пра Тураў і пра яго знакамітых людзей. "Плануем завяршыць працу да 5-га верасня. Будзеце ў Тураве на свята, заходзьце!", — усміхнулася мая суразмоўца.

**Марына ЦЯРЭШЧАНКА**

**Тураў упершыню згадваецца ў Іпацьеўскім летапісу пад 980 годам. Аднак, як сведчыць гісторыя, тураўскі князь браў удзел у паходзе на грэкаў, і згодна дагавору, яшчэ аж 907 года грэкі абяцалі плаціць даніну Кіеву, Тураву і іншым гарадам, у якіх сядзелі князі. Тады Тураў займаў значна большую тэрыторыю, чым зараз!**

# Кірыла Тураўскі абяцаў вярнуцца!

## Крэмнае, Пагост, Семурадцы...

Уязныя вароты ў горад стаялі ў Азяранах. Яны ўначы зачыняліся на замок і ніхто не мог зайсці ў горад. Што датычыць назваў вёсак, кожная з іх авеяна легендамі і паданнямі. Так, напрыклад, Знаменка раней называлася Сляпцы. Згодна загаду тураўскай княгіні, усіх сляпых і з кепскім зрокам людзей вывозілі ў адно месца, каб тыя не... заразілі іншых. А паколькі не было ўрачоў, людзей ніхто не лячыў, яны жылі там, працавалі і зусім слеплі. Такім чынам, вёска атрымала адпаведную назву.



Вёску Семурадцы варта называць Семірадцы. Бо там жылі сем князёў-бараў, якія ўзнагароджвалі або каралі тураўчан. Існаваў там суд старэйшын. У вёсцы Старажоўцы жылі "старажы"-вартаўнікі, якія абаранялі Тураў.

Пра вёску Пагост ходзяць дзве легенды. Адна расказвае пра тое, што назва Пагост пайшла ад слова "госць", "пагасціць". У Тураве на працягу года існавалі два кірмашы, якія размяшчаліся на беразе ракі Прыпяць ад Турава да Пагоста. Там можна было набыць усё, пачынаючы ад іголкі і заканчваючы конямі, якіх прадавалі цыганы. А паводле другой легенды, вёска атрымала сваю назву ад месца, дзе хавалі людзей, ад пагоста. Нават і цяпер старажылы кажуць, што чалавека панеслі на пагост. А мы часцей гаворым: панеслі на могілкі. Пацвердзілася другая легенда, паколькі падчас раскопак Пагоста археолагі знаходзілі толькі астанкі пахаванняў. А гэта значыць, што на месцы сённяшняга Пагоста сапраўды знаходзіліся могілкі.

У Чэрніцах, паводле адной легенды, знаходзіўся жаночы Варваранскі манастыр, які быў пабудаваны жонкай тураўскага князя Варварай. А калі слова "манах" перакласці з грэчаскай мовы на беларускую, яно азначае "чарнец". Адсюль і назва — Чэрніцы. А другая легенда расказвае, што калі да тураўскага князя прыязджалі князі з іншых княстваў, кожны з іх ехаў са сваёй абаронай. Менавіта гэтую абарону "адсякалі" ў Чэрніцы, як чэрнь.

Паводле адной легенды мяркуюць, што ў вёсцы Крэмнае пасяліўся першы чалавек, прозвішча якога было Крэмнецкі. А згодна другому паданню, там жылі людзі, якія займаліся апрацоўкай крэмнію.

Паколькі Тураў — старажытны горад, у ім было знойдзена шмат стаянак першабытнага чалавека, селішчаў, могільнікаў, гарадзішчаў, курганоў. Падчас раскопак былі знойдзены старажытныя каменныя прылады працы, кераміка. Так, каля вёскі Бечы засталіся рэшткі старажытнага ўмацаванага паселішча, якое ўзнікла яшчэ ў эпоху патрыярхальна-абшчыннага ладу. Гэта пасяленне можна пабачыць і сёння.

А падчас раскопак Вароніна быў знойдзены могільнік... дзе спальвалі памерлых. Гэта сведчыла пра тое, што даўней людзей пасля смерці спальвалі, а іх попел хавалі ў спецыяльных глечыках.

## Калодзежная вада з прысмакам... малака

Легендамі авеяныя не толькі назвы вёсак, размешчаных каля Турава, але і помнікі горада. Бабруйкава гара — не выключэнне. Пра яе ходзяць дзве легенды. Адна з іх распавядае пра тое, што на гэтым месцы была вялікая бітва, пасля якой праз пэўны час сабралі ўсе чарапы, спалілі, засыпалі іх у гару і пахавалі. Дакладна невядома, чаму гара мае менавіта такую назву. Існуе меркаванне, што нейкі салдат па прозвішчы Бабруйка здзейсніў подзвіг, або галоўнакамандуючы пры дапамозе хітрыкаў перамог у баі... Другая легенда расказвае, што калі ў Тураве быў вялікі мор і жывыя не паспявалі хаваць памерлых, людзі пайшлі на паклон да княгіні, каб тая выратавала горад, паколькі Тураў выміраў. У адказ на гэта княгіня зачынілася ў сваім пакоі і на працягу трох сутак не пакідала яго. А на чацвёрты дзень яна выйшла і сказала, што трэба зрабіць для выратавання Турава. Яна загадала злавіць чорнага бабра, чорнага Мядзведзя і чорнага пеўніка. Сярод поля выкапаць глыбокую яму, у якой забіць ахвярных жывёл і насыпаць высокі курган. Княгіня меркавала, што пасля гэтага мор сярод людзей скончыцца. Так гэта ці не — невядома, паколькі Бабруйкаву гару яшчэ ніхто не капаў, каб высветліць, якая з легендаў правільная.

Не менш цікавыя і па-свойму адметныя гісторыі звязаны з тур-калодзежам. Пра яго ходзяць чатыры легенды. Паводле першай, помнік мае такую назву, паколькі выкапаў калодзеж і браў удзел у яго хрышчэнні князь Тур. Другая легенда расказвае, што падчас вайны з татарамі, калі тураўчане прыціснулі татараў да ракі і тыя пабачылі, што ім прыходзіць канец, галоўнакамандуючы войска татараў кінуў туды свой залаты шлем — туру. Гэтым ён хацеў сказаць: я яшчэ вярнуся... Трэцяя легенда распавядае пра тры дны ў калодзежы: меднае, срэбнае і залатое. Калі прарвецца меднае дно, будзе патоп, срэбнае — вялікая бітва, залатое — вельмі вялікая бітва, а мо і канец свету. Так, калі ў XIV стагоддзі ў Тураве быў патоп, калі ў адну ноч усе дамы пайшлі пад ваду (а яна паднялася тады на чатыры метры!), выратаваліся толькі тыя жыхары, якія паспелі дабегчы да замкавай гары. Астатнія загінулі... Зараз замкавая гара мае вышыню тры метры, а раней — 8—9 метраў. Летапісец кажа, што ў калодзежы прарвалася меднае дно. А згодна з чацвёртым паданнем, калі ішла асада Турава палякамі, яны ўварваліся ў горад. Дапамога з Расіі прыйшла, але было позна: Тураў быў разбураны, а насельніцтва выразана. І ў калодзежы ляжалі... немаўляты. Але, згодна законам цуду, дзеці не загінулі, паколькі вада ў калодзежы ператваралася ў грудное малако матуляў. І калі ўсіх дзяцей дасталі адтуль, больш як два тыдні ніхто не мог піць ваду з гэтага калодзежа, бо яна мела прысмак малака.

У 2003 годзе ў Тураве знайшлі Марцінаў калодзеж (Марцін — гэта трэці святы Турава пасля Кірылы і Лаўрэнція), які зараз знаходзіцца ў стане рэстаўрацыі. Яго можна пабачыць на могілках Барыса і Глеба.

## Землятрус пахаваў храм?

У кожнай легендзе і кожным паданні ёсць праўдзівае зерне. Такога меркавання прытрымліваюцца і мясцовыя жыхары. Дзіўна, але і сёння ў горадзе можна пабачыць з'явы, якія... немагчыма растлумачыць!

Расказвае мясцовая жыхарка Ніна Жураўская. Вясной яна пайшла з сынам на Прыпяць, каб паглядзець, як прачынаецца прырода. Раптам сын крыкнуў: "Мама, глядзі, агонь!". Пакуль жанчына павярнулася, полымя ўжо не было бачна, толькі дым ці пара, што набрала вышыню і пайшла ў левы бок. Вакол нічога не шалахнецца, цішыня мёртвая... Пара дайшла да пэўнай адлегласці і павярнула назад, затым хіснулася направа, пачала скручвацца-збірацца ў адзіны слуп і... усмактаўся пад зямлю. Згодна паданню, недалёка ад могілак Барыса і Глеба — менавіта на тым самым месцы! — падчас набажэнства царква разам з усімі прыхаджанамі пайшла пад зямлю і на працягу яшчэ доўгага часу людзі чулі з-пад зямлі царкоўны спеў. Мяркуюць, што здарылася тое з-за моцнага землятрусу недзе на Украіне, хвалі якога дайшлі да Турава і "пахавалі" храм. Старажылы лічаць, што гэта з'ява — своеасаблівы знак, таму на тым месцы трэба паставіць помнік ці крыж на памяць пра тое, што там была царква.



Упала на Тураў некалі і... жоўтае свячэнне. Яго назірала фондаахоўнік мясцовага краязнаўчага музея Валянціна Карась. Паводле яе слоў, дзіўную з'яву яна ўбачыла на месцы былога аэрадрома, дзе зараз пасвяцца каровы. Жоўтая паласа прыкладна 45-ці сантыметраў даўжынёй раптам упала ў траву. У канцы аэрадрома расла канюшына. Дзякуючы жоўтаму свячэнню, Валянціна Міронаўна дакладна бачыла кожны лісточак раслін, і ўсе яны былі не... цёмна-зялёнага колеру, як звычайна, а лімоннага, колеру маладой кволай зеляніны.

Як растлумачыць гэтую з'яву, жанчына не ведае. Яна звярталася з такім пытаннем да розных людзей, да спецыялістаў. Свяшчэннік, мяркуючы па словах Валянціны Карась, лічыць, што свячэнне можна разглядаць як пэўны знак, паколькі ў той момант яна займалася пошукам матэрыялаў пра жыцця святых Турава. "Калі так, можа, на гэтым месцы... пахаваны Кірыла Тураўскі?", — разважае яна. Справа ў тым, што месца пахавання святога да сённяшняга дня ніхто не ведае. Адна легенда расказвае, што калі памерла маладая дзяўчына, магільшчык прыйшоў капаць яму на могілкі Барыса і Глеба ды натрапіў на саркафаг. Ён адкрыў вечка і пабачыў там мужчыну ў царкоўным аблачэнні і ботах. Далакоп толькі дакрануўся да ботаў, як пацякла кроў. Ён спужаўся і пабег у вёску. А калі праз некаторы час людзі прыйшлі на могілкі, убачылі, што яма сапраўды была выкапана і саркафаг адчынены, а... нябожчыка няма. Той жа ночу Кірыла Тураўскі сасніўся свяшчэнніку Запясоцкай царквы і сказаў: "Гэту дзяўчыну тут не хаваць, гэта маё месца". Кірыла Тураўскі — манах, а ім не дазваляецца браць шлюб пры жыцці. Значыцца, і хаваць дзяўчыну побач няможна. А на вёсцы тым часам пачалі шукаць чалавека, які здолеў бы за такі кароткі тэрмін перазахаваць чалавека; раскопвалі ўсе свежыя могілкі. Але нідзе не знайшлі нябожчыка. Праз два тыдні Кірыла Тураўскі зноў сасніўся свяшчэнніку Запясоцкай царквы, сказаўшы: "Не шукайце мяне. Прыйдзе час, і я сам паўстану прад вамі мошчамі".

А другая легенда расказвае, што калі падчас уніі ўсіх хацелі ператварыць у католікаў, Кірылу Тураўскага перазахавалі і месца пахавання трымалі ў такім сакрэце, што і чалавек, які займаўся пахаваннем, нікому нічога не расказаў, дзе ж знаходзіцца магіла. Тутэйшыя ведалі, як католікі састрыглі св. Андрэю Першазданнаму бараду ды й выдалі за свайго святога. А паколькі жыхары Турава вельмі любілі Кірылу Тураўскага, яны не жадалі кпінаў з мошчаў святога, таму і перазахавалі яго. Калі потым ішоў запыт па рэлігійных каналах, дык святары Турава адказалі, што... звезлі астанкі Кірылы аж у Кіеў. Аднак у Кіева-Пячорскай лаўры ўсе святыя падпісаныя, і Кірылы там няма.

Дарэчы, тураўская зямля дала сваім жыхарам чатырох святых: Кірылу Тураўскага, Лаўрэнція (знаходзіцца ў Кіева-Пячорскай лаўры), Марціна (пахаваны на могілках Барыса і Глеба) і прылічанага да ліку святых мясцовага князя Барыса.

•

Паводле меркавання многіх вучоных, у IX — XI ст.ст. Тураў быў другім па значнасці горадам пасля Кіева на Старажытнай Русі. Тураўская епіскапская кафедра была заснавана ў 1005 годзе. Сведчаннямі роскввіту хрысціянства ў Тураве стала Евангелле XI ст., а дакладней, дзесяць лістоў з яго, якія былі знойдзены ў 1866 годзе ў Тураўскай Спаса-Праабражэнскай царкве. У канцы XIII — пачатку XIV ст. Тураў увайшоў у склад ВКЛ. У XVI ст. у Тураве, паводле сведчання, было 80 цэркваў. Акрамя таго, працягваў сваю дзейнасць старажытны Барыса-Глебскі манастыр. У 1897 годзе ў Тураве налічвалася 4290 жыхароў. У горадзе былі гасцінны двор, млын, штогод два разы ладзіліся багатыя кірмашы.

**Наста МАРЫНІНА**

# Тройчы святы край

## На пачатку мінулага тысячагоддзя ў Тураве было ад 40 да 70 цэркваў. Зараз — толькі адна; затое — Усіх Святых.



У гэтым прыходзе ўсё пачыналася каля 200 год таму, калі першая палова храма скарыстоўвалася ў якасці невялічкай часоўні. Значна пазней была дабудавана другая палова, і царква набыла свае сучасныя абрысы.

Студэнт Мінскай духоўнай семінарыі Андрэй кажа, што ў храм яго прывялі некаторыя з'явы ў жыцці, не тое каб вартыя аповеду. Парафіянінам прыходу Усіх Святых ён быў цягам трох гадоў, а потым яму прапанавалі набыць царкоўную адукацыю. Калі Богу будзе заўгодна, яшчэ праз чатыры гады Андрэй прыме сан.

— Згодна праваслаўнаму этыкету, зайшоўшы ў храм, трэба перш-наперш пацалаваць ікону, — будучы святар настаўляе неспакушанага ў царкоўнай справе карэспандэнта.

— Сёння свята двух святых: вось гэтыя два князя, Барыс і Глеб, жылі на пачатку XI ст. і былі забіты тураўскім князем Святаполкам Акаянным. У іх гонар у Тураве быў названы кляштар, які знаходзіўся на месцы сённяшніх Запясоцкіх могілак. Ад яго захавалася маленькая часовенка, дзе сёння праходзіла служба.

Заснаваная на пачатку XI стагоддзя, тутэйшая епархія — другая па старажытнасці на Беларусі пасля Полацкай. Аднак ёсць меркаванне, што Тураўская зямля прыняла хрысціянства раней за 988 г., у якім "афіцыйна" хрысціліі Русь.

Увогуле, старажытнае мястэчка дало свету трох святых: Марціна, Лаўрэнція і — вядома — Кірылу. Святы Марцін цягам 10 год быў славутым на ўсю ваколіцу поварам, і адначасова служыў архірэем. Аднак, адчуваючы набліжэнне смерці, ён прыняў манашаскі пострыг. Лаўрэнцій — тураўскі епіскап канца XII ст.

Самага вядомага ў свеце прадстаўніка гэтай зямлі, свяціцеля Кірылу, у XII ст. нездарма называлі Златавустам: гэта быў вельмі адукаваны чалавек, хоць, як ні дзіва, адукацыю атрымліваў толькі ў Тураве.

Па словах Андрэя, сапраўды старажытных ікон у храме няма: асноўная частка царкоўнага жывапісу прадстаўлена асобнікамі, якім "усяго толькі гадоў 200 — 250". З чым гэта звязана? Часткова са шматлікімі войнамі і канфліктамі, якія, прайшоўшы па беларускай зямлі, не толькі рэкі напоўнілі крывёю, але і пазбавілі гэтыя святыя мясціны духоўна-матэрыяльнай скарбніцы. Але і пасля вайны тут заставалася вельмі шмат ікон. У 60—70-я ж большую іх частку забралі. Наколькі вядома, некаторыя з іх потым апынуліся ў храмах Мінска, а след іншых згубіўся назаўсёды.

Раней міратачэнне ікон было выключна рэдкім: на досвітку хрысціянства "рэгістраваўся" адзін выпадак на сто гадоў. Але яшчэ ў Старым запавеце напісана: "Прыйдзе час, абразы будуць плакаць". Апошнім жа часам, асабліва ў XX — і ўжо ў XXI стагоддзях — з'ява набыла масавы характар. Беларусь — не выключэнне з хрысціянскага свету; кажуць, перад трагедыяй на Нямізе адна ікона ў мінскім Петрапаўлаўскім саборы таксама міраточыла.



Не абмінуў цуд і гэтую царкву: некалькі гадоў таму, падчас Вялікага посту, тут міраточыла ікона Міколы Цудатворцы. Можа, гэта падасца фантастычным, але св. Мікола на ёй і сапраўды выглядае нейкім журботным.

Кажуць, цячэнне міры адбываецца перад буйнымі трагедыямі і катастрофамі, і тое, што зараз іконы міраточаць так інтэнсіўна, ёсць знак: мы ўсе жывём у нестабільны час. У Тураве, аднак, існуе і іншая думка, чаму гэта адбываецца.

Хаця некалькі год таму адзіны ў горадзе буйны храм быў адрэстаўраваны і абшыты вагонкай, у ім па-ранейшаму няма ўмоў для захавання іконнага фонду. Да прыкладу, летам тут вельмі суха, і зімой, наадварот, зашмат вільгаці, якая трапляе на ікону і разбурае фарбу.

Што адметна: пры царкве існуе прытулак для абяздоленых дзяцей, дзе іх даглядаюць, кормяць, чысцяць іх адзежу. Таксама функцыянуе братэрства імя Кірылы Тураўскага, якое аб'ядноўвае некаторых парафіянаў дзеля дабрачыннай дзейнасці. Напрыклад, яно займаецца доглядам за старымі. Складаецца братэрства, паводле слоў Андрэя, з сапраўдных праваслаўных людзей, якія заўсёды былі гатовыя прыйсці на дапамогу ў чужым няшчасці. На жаль, такіх людзей сёння няшмат.

— Вельмі складана быць у нашыя часы сапраўдным праваслаўным чалавекам, пасля 70 год бязбожнае ўлады.

**Мікалай АНІШЧАНКА**



**ЗАХАРАВА, 19**




**Пішыце на адрас: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19, Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва";**
**e-mail: minsk@lim.by**

***Адрас у Інтэрнеце — www.lim.by***







Аўтар усіх скульптурных кампазіцый з дрэва ў Белавежскай рэзідэнцыі Дзеда Мароза разьбяр **Аляксандр Масла** і яго памочнікі перажылі яшчэ адзін напружаны месяц, выконваючы дзяржзаказ. Па задумцы арганізатараў, часткай упрыгажэння Турава да Дня беларускага пісьменства сталі кампазіцыі дубовых скульптур. Яны ўсталяваны ля Музея прыроды і на замкавай гары.

***На здымках: работы кіраўніка мастацкай майстэрні Нацыянальнага парка "Прыпяцкі" разьбяра Аляксандр Масла.***

*Фота Міколы АНІШЧАНКІ*



КУТОК ГУМАРУ

# З жыцця жыхароў Турава ранейшых часоў

## У судзе

— Гэта ты ўкраў сасну з лесу?

— Зусім не я, ваше-скародзіе, — адказвае тураўчанін. — Шчыра прызнаюся вам, як было: ехаў я праз лес, і вось мая зачапілася за дрэва, а тое дай ды зламалася і бразь на воз. Што было рабіць?! Дрэва цяжкое — я адзін не скіну, ну і зацягнуў дахаты.

## Каму што... *(паміж мужчынаў)*

**Першы:** — Што вам найбольш падабаецца ў паненак?

**Другі:** — Я люблю прыгожыя вочкі, насок прыгожы, невялічкі і поўненькія ружовыя вусны.

**Трэці:** — А мне найлепей, калі жанчына ці дзяўчынка мае вузкія плечкі, а крыжавіну шырокую.

**Першы:** — Гм... Я ўглядаю толькі на сярэдзіну.

**Чацвёрты:** — А мне толькі лыткі ў прыгожых панчохах.

## *(паміж паненак)*

**Першая:** — Якога ты больш упадабала?

**Другая:** — Вунь таго, з доўгім носам і бародкай.

**Першая:** — А мне смакуе толькі той, брыты, з кароткім носам і пустой галавой, але з поўнымі кішэнямі.

* * *

Званар у часе землятрусу, пачуўшы, што вежа дрыжыць, схіліўся ўніз праз балясы. дый крычыць:

— Які там чорт званіцу трасе?

## Разумны адказ

Прыходзіць яўрэй да рабіна прасіць аб разводзе з жонкай.

— Чым жа кепская твая жонка? — пытае рабін.

— Не магу сказаць, бо яна мая жонка.

Па разводзе рабін пытае яго:

— Ну дык скажы, чым кепская была твая жонка?

— Нашто я буду гаварыць на яе цяпер, яна мне — чужая.

## Што каму баліць

Каля труны плачуць дзеці:
"Матулечка-маці!
А хто ж цяпер нас без цябе
Будзе гадаваці?
Хто ў хатцы нас дагледзіць,
Хто нас прыкахае?"
Мужык стаіць і слухае, цяжэнька ўздыхае...
"З кім наш татка будзе спаць?"
Ён аж пахіліўся.
"Але ж праўда, мае дзеткі!"
І слязьмі заліўся...

## Добра адпісаў

Адзін сын служыў у салдатах. Пачалася вайна. Сын да бацькі піша з вайны і просіць прысласць грошы, бо яму адстрэліла нагу і ён ляжыць хворы ў лазарэце.

Бацька адпісвае: "Дарагі сынок! Гэта ўжо чацвёртая нага, што табе адстрэлілі на вайне. Шкода цябе, але грошай у мяне няма ўжо. Пастарайся вылезці на апошніх нагах, што ў цябе засталіся, на добрую дарогу.

Твой бацька".

**Сабраў і запісаў Віктар КАВАЛЁЎ**





Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР

Анатоль КАЗЛОЎ







АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, Мінск,
вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73

АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-79-65
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-81-53
паэзіі, літаратурнага жыцця, крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы — 284-66-73
музыкі, тэатра, кіно і выяўленчага мастацтва — 284-81-53
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73

*Электронны адрас:*
e-mail: minsk@lim.by

*Адрас у Інтэрнеце — www.lim.by*





Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 3424
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 1.09.2004 у 11.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ — 1284

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12